PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 5 (2020) ГОД XL БЕЛАСТОК 29 СТУДЗЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



Мікола Ваўранюк

## Выгадаваць шасцёра ўнукаў

**— Яны ў мяне ўжо ў шэсць гадзін на нагах і радочкам бягуць на кухню мыцца. Як выходзяць да школьнага аўтобуса, то суседзі кажуць: „О, брыгада Плішкаў высыпалася!" З вёскі ўсяго шасцёра дзетак у падставоўку ходзяць. Пяцёра з іх — з мае хаты. Я кожны раз мушу выйсці за імі. Стану на парог, палюбуюся.**

Блізняты Агнешка і Аня ходзяць у першы клас. Юстына — у чацвёрты. Марта і Пятрусь — хаця ён на год маладзейшы — вучацца разам, у сёмым класе. Найстарэйшая, 20-гадовая Кася, закончыла Эканамічны ліцэй у Бельску і ўжо некалькі месяцаў працуе прадаўшчыцай у краме. Наймае ў Бельску пакойчык. Малодшыя жывуць з бабкай, у старэнькай хатцы пасярэдзіне вёскі Кошкі. Хата належала брату мужа бабкі Лідзіі.

— Ужо трэці год пайшоў, як мы тут жывем, — расказвае яна. — Спачатку я сюды перабралася, у пустую, моцна паднішчаную хацінку, што як хлеў які была. Стала ўпарадкоўваць, а дзеткі па аднаму да мяне паўцякалі. І падумаць, такую хату, сваю хату, што мы з нябожчыкам мужам пабудавалі, трэба было пакінуць, каб па чужых кутках туляцца. Дзеткі да мяне з **адмарожанымі ножкамі папрыбягалі. У Пётруся падэшвы палопалі. На Руздво спаў з паднятымі нагамі, інакш ад болю не мог. Марта, дык і цяпер скардзіцца, што часамі тая калісь адмарожаная нага баліць.**

### НА АДНОЙ НАЗЕ

Дзень перад Калядою. Дзеці яшчэ ў школе. Бабка Лідзія прыбрала ўжо хату пад свята. Пабяліла.

— Ой, каб хто бачыў як я на крэсле на адной назе, бы бусел, выкручваюся, то рассмяяўся б. А я толькі думаю, каб не ўпасці, бо што ж тады гэтыя бядулькі зробяць, да каго прыхіляцца?

У Лідзіі Плішко няма аднае нагі.

— Яна ўжо ў мяне ад вайны такая была, што я толькі на пальчыкі магла ступаць. Як саветы немца гналі, то ў нас два салдаты вячэралі, адзін краснагвардзеец, а другі ўкраінец, ано я не знаю чым яны розніліся. І за што пасварыліся. Краснагвардзеец хацеў застрэліць украінца, а папаў у мяне. Вось з таго часу яна мне ўсё недамагала, пакуль цалкам не аднялі ў Беластоку, у 1970 годзе.

У сваё 74 гады, з адной нагой, Лідзія Плішко працуе як малады здаровы чалавек.

— Дзяцей жа гадаваць трэба. Паглядзіце колькі дроў у мяне, што і ў не аднаго гаспадара столькі не будзе. А я ж іх сама нарубала. Я і бульбу ў людзей палю, і трускалкі выбіраю. Як чатыры яйкі ў каго зараблю, то адно з'ем, а тры дзеткам аддам, бо яны бягуць следам за мною. Добрыя мае ўнучаняты, паслухмяныя, памагаюць мне. Вы ж падумайце, я іх выхавала і каб дзе каторае ўдарыла. Якія харошы ўжо сталі, а былі ж такія маленькія, пальчыкі бы запалкі. Цяпер збяруцца ў купку, пасядаюць, кніжкі разам чытаюць, старэйшыя малодшым, Канапніцку ці там што. Так прыгожа. Зрэшты, як іх будзеш караць, калі яны і так столькі перажылі.

### МАМА ПРЫЕДЗЕ

Бабка Ліда не можа паўстрымаць слёз.

— Часамі каторае пытаецца ў мяне, як так ёсць, што ўсе дзеці маюць бацьку, а толькі ў нас няма. Бывала, як дачка яшчэ ў Бельску працавала, дастане грошы, а ён — яе каханак, з каторым жыве — перапыніць яе па дарозе і едуць разам піць. **Па чатыры-пяць дзён іх няма, а дзеткі да кожнага поезда бягуць, бо мама прыедзе. А потым вяртаюцца са спушчанымі галоўкамі.** І як жа так далей жыць можна было. А ён яшчэ і біў мяне. Дзяцей не чапаў, прынамсі не маіх вачах, відаць суда баяўся. У іх і цяпер ні палена дроў няма, ні буханкі хлеба, ні якой скваркі ў запасе. У капанне бульбу забілі ў Вульцы, то і тую ўжо мусіць прапілі. А ў іх жа яшчэ адзін хлопчык, Ярак, у „зэрууку" ходзіць. Сабацы, што галодны на прывязі сядзіць, то дзеці адсюль насілі есці.

Сядзім у пакоі (другая частка хаты, гэта кухня). Тут канапа-„вэрсалька", ложак, два фатэлі, невялікі столік між імі. На ложку плюшавы мішка. Відаць некалькі лялек ды іншых забавак. Перадсвяточная чысціня. На гэты пакой выходзіць адным бокам-сцяноўкай печка. На печы любіць грэцца чорны кот Цыган. Цяпер ляжыць на канапе. Ласкі не любіць, з рук уцякае.

### ДОБРА ЖЫЦЬ

— Цяпер то ой як нам добра жыць! Гэтую мэблю купілі мы за грошы, якія школа дала. Дырэктарка з Маліннік прыязджала, і настаўнікі, усе такія мілыя людзі. Печ вясною пабудавалі, цэлых 7 мільёнаў каштавала. Але штось перарабляць трэба будзе, бо не цягне добра. І тэлевізар папсаваўся, а за наладу невядома колькі давядзецца

Працяг на стар. 3

Ада Чачуга

## „Слава рожденному!" — у Паўлах новы калектыў

Жанчыны сабраліся ў вясковай святліцы хутка. Сталі пры сцяне і зладжанымі галасамі прывіталі нас — Сцяпана Копу ды мяне — калядкай — „Слава рожденному!", з якой мелі выступіць 21 студзеня ў Драгічыне на Ваяводскай сустрэчы калядных калектываў. А як адспявалі, толькі тады пасядалі вакол вялізнага святлічнага стала. Крыху нерваваліся: ужо ж 10 студзеня, часу да агляду засталося мала, а тут жа і Сцёпа Копа — невядома, ці іх пахваліць.

Але Сцёпа не прыехаў дзеля таго, каб іх хваліць ці ганіць. Хацеў праслухаць, нешта выправіць, параіць, як будзе лепш. Вядома, як харавы калектыў з вёскі Паўлы яны выступалі толькі на конкурсе пахавальнай песні ў Заблудаве, а цяпер вось маюць выступіць у Драгічыне, ды неўзабаве і ў конкурсе „Беларуская песня '95". Гэта ўжо пастаноўлена. Наогул усхваляваныя жанчыны трымаюцца дзельна. Іх восем: Лідзія Андраюк, кіраўнічка вясковай святліцы, Надзея Раманюк, Марыя Іванюк, Ніна Філіпюк, другая Марыя Іванюк, Анна Раманюк, Надзея Харытанюк, Марыя Харытанюк. Прыйшоў таксама і Аляксандр Раманюк, які раней спяваў у рыбалаўскім хоры. Абяцае, што будзе спяваць са сваімі, паўлаўскімі жанчынамі. Зайшла і Вера Харытанюк, якая пакуль што толькі здымае іх на відэакасеты, але таксама мяркуе, што магла б заспяваць. У Драгічыне разам з мужам будзе прымаць паўлаўскіх каляднікаў каўбаскай і яйкамі, адным словам, выконваць ролю гаспадароў.

Назбіралася і больш людзей. Прыйшлі дзеткі, якія таксама хочуць выступіць у Драгічыне з каляднымі песнямі.

* * *

У Паўлах быў некалі тэатральны калектыў. Арганізаваўся тады, калі не было яшчэ ні Беларускага таварыства, ні „Нівы", — у 1955 годзе. Лідзія Андраюк прыносіць і паказвае мне ганаровы дыплом, які калектыў атрымаў на сваё 20-годдзе ў 1975 годзе. Цяжка ёй гаварыць пра пачаткі — ёй тады было ўсяго чатыры гады. Але ёсць і такія, што ігралі на сцэне ўжо тады. А хто імі займаўся? — Настаўнікі! Ну, і сапраўды. Хто ж бы не памятаў Валянціну Мароз, Аляксея Максімюка, ды іншых... Цяпер тут няма школы і няма настаўнікаў.

І нават не даязджае Янка Мордань, які, мабыць, гадоў пяць кіраваў калектывам у пазнейшыя гады. Як заўсёды, для такой справы заблудаўскім гмінным уладам не хапіла грошай — быццам паўлаўскі драматычны гурток быў не праявай культурнай дзейнасці жыхароў гміны, а нейкай замежнай дыпламатычнай пляцоўкай. Ужо і бабы Янку казалі: мо зайграем нешта папольску, хутчэй грошы дадуць. Але ён заўпарціўся: калі буду вас вучыць — дык толькі па-свойму.

Ну, і ў восемдзесят восьмым калектыў зрабіў Морданю ўрачыстае

Працяг на стар. 3

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Piotr G., więzień połknął kawałek drutu i wbił sobie w płuco spinacz biurowy. Na lekarzy, którzy uratowali mu życie napisał skargę do Europejskiej Komisji Praw Człowieka w Strasburgu. Operację zrobili bez jego zgody. Pierwszy raz Piotr G. trafił do więzienia jako nastolatek za gwałt, później za rozbój, i ponownie za gwałt. Czekając na rozprawę w grudniu 1993 r. znów połknął krzyżak (dwa druty połączone gumką). W szpitalu bytomskiego aresztu śledczego przebywał pacjent, który za jednym razem połknął łyżkę, nóż, widelec. Okazem najczęściej pokazywanym przez lekarzy jest osiem 10-centymetrowych sprężyn z łóżka, które przez pół roku leżały w żołądku przestępcy. Wśród eksponatów znajdujących sie w szpitalu wyjętych z żołądków więźniów były: zardzewiały pilnik, złamana brzytwa, kilka związanych grubych drutów. Jeden z więźniów tak często podcinał sobie żyły, że trzeba było mu przetoczyć 34 litry krwi. W końcu posadzono przy nim strażnika. Strażnik siedzi i patrzy, a facet robi się coraz bledszy. Odkrywa kołdrę, a tam kałuża krwi. Okazało się, ze więzień rozerwał sobie żyłę palcami.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 4 — 1995 r.)*

* * *

*Podczas spotkania wiceministra kultury i sztuki Michała Jagiełły ze środowiskami mniejszości narodowych w województwie białostockim moją uwagę zwróciła postawa gospodarza spotkania wicewojewody Grzegorza Rykowskiego (PSL). Wicewojewoda z niedwuznacznym uśmieszkiem przyglądał się przedstawieniu. Wymknęło się jednak wiceojcowi regionu kilka powiedzonek nie licujących bynajmniej z powagą urzędu przezeń piastowanego, a i potocznie pojmowaną kulturą osobistą. Grzegorz Rykowski przypomniał zgromadzonym na sali autochtonom, że Dzień Niepodległości w odróżnieniu od świąt prawosławnych jest świętem nas wszystkich i nie należy go porównywać z lokalnymi świętami,* — піша Юры Каліна.

*(Czasopis, nr 1 — 1995 r.)*

Пан ваявода толькі ўсведамляў „падданым”, якія святы трэба ўспрымаць з асаблівай пашанай, а якія можна святкаваць і на працы. Улада ведае лепей за нас, што і калі мы павінны святкаваць.

* * *

*Kościół mówi: Do Europy nie mamy po co iść, bo zawsze w niej byliśmy. A ormowcy religijni dodają, że jeśli iść na Zachód, to tylko z modelem polskiej rodziny i zbiorem wartości chrześcijańskich. Tymczasem grupa polskich gastarbeiterów, liczna w Niemczech, niemal w stu procentach deklaruje ateizm. Bo nie trzeba wtedy płacić dodatkowych podatków na utrzymanie świątyń i duchownych swego wyznania.*

*Elity władzy są w Polsce klasą polityczną pochodzenia wiejskiego lub chłopskiego, a to znaczy — my będziemy wchodzić do Europy, a Europa do nas wchodzić nie będzie.*

*(Polityka, nr 1 — 1995 r.)*

Еўропу ў сябе прабаваў ужо рабіць шах Ірана Махамед Рэза Пехлеві і вядома як гэта скончылася.

* * *

*Scenariusz wydarzeń na rok 1995, rok wyborów prezydenckich, został wyraźnie nakreślony. Jest to scenariusz szarpaniny i walki, a nie rozwiązywania problemów państwa. Sygnał do jej rozpoczęcia dał niestety prezydent. Wszystko wskazuje na to, że na początek roku bijatyki obejmą strefy bardzo dla państwa i jego międzynarodowego prestiżu newralgiczne — gospodarkę, wojsko, sprawy zagraniczne. Matactwo, oszustwo, skandal — tymi słowami politycy żegnali się przed Sylwestrem.*

*(Polityka, nr 1 — 1995 r.)*

А ўсяму вінаватая дэмакратыя. Яшчэ не так даўно змена шэфа дзяржавы была намнога менш складаная — адзін адыходзіў з увагі на „стан здароўя”, і ў той жа дзень быў ужо новы цар. У суседняй дзяржаве шэфам дзяржавы назначаўся найчасцей старшыня пахавальнага камітэта нейкага дзядзькі Лёні ці Мішы, якому ў натуральны спосаб скончылася кадэнцыя. Ніхто не ангажаваў ў палітыку грамадства. Прадстаўлялі людзям у газетах і тэлебачанні новага геніяльнага чалавека, што абазначала патрэбу актуалізаваць партрэты ў службовых кабінетах.

* * *

*W pojmowaniu Cerkwi organizacje białoruskie robią zbyt mało. Częściej zajmują się pseudopolitycznymi grami niż realną działalnością służącą zachowaniu tożsamości religijno-narodowej społeczności białoruskiej*, — сказаў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава.

*(Czasopis, nr 1 — 1995 r.)*

* * *

*Трагедыя беларускага народа ў тым, што ўся ўлада на нашай зямлі аказалася ў руках людзей, якія на працягу апошніх гадоў павялі нас да эканамічнае і палітычнае катастрофы. Развал эканомікі, дэградацыя культуры і навукі набывае ўсё больш шпаркі тэмп. А народ наш, не прызвычаены да дэмакратыі, разгубіўся і не дае рады адрозніць найпрымітыўнейшую дэмагогію ад сапраўднае палітыкі.*

*(Літаратура і мастацтва, н-р 52 — 1994 г.)*

* * *

*Жывеш на гэтай зямлі, сам беларус — размаўляй на сваёй мове. На жаль, мы не жывём у дэмакратычнай і незалежнай дзяржаве і ўлада наша старая і думае яна па-старому. Адсюль такая непавага да беларускіх суполак, да беларускага руху. Калі твая суполка ўкраінская, польская, габрэйская, расійская — умомант табе дапамогуць, а калі беларуская — нічога не атрымаеш, бо ты „нацыяналіст”; хоць паняцце гэтае раўназначнае патрыятызму.*

*(Наша слова, н-р 1 — 1995 г.)*

Адкуль мы на Беласточчыне гэта ведаем?!

* * *

*Pod okupacją niemiecką bez przeszkód funkcjonowały szkoły z językiem białoruskim. Było ich więcej niż po wojnie, za władzy radzieckiej... Na kongresie slawistów, który odbył się w Białymstoku w grudniu 1991 roku, dwie Białorusinki z tytułami profesorskimi stwierdziły, że białoruski to taki język, który odszedł od polskiego a nie doszedł do rosyjskiego lub odwrotnie.*

*(Rzeczpospolita, nr 6)*

Без свае школы нават навука магла дайсці да такога ўзроўню.

# З мінулага тыдня

У рамках **Тыдня малітваў за адзінства хрысціян** у беластоцкіх цэрквах і касцёлах адбываліся набажэнствы з удзелам вернікаў абодвух канфесій. Тыдзень малітваў пачаўся з набажэнства ў касцёле св. Роха. На другі дзень адбылося набажэнства ў царкве Святога Духа на Антонюку. Экуменічнае набажэнства з удзелам духавенства, хораў і вернікаў абодвух веравызнанняў адбылося ў Фарным касцёле, а маладзёжнае — у касцёле св. Войцеха.

**Беластоцкая асвета** новы год пачала з 40-мільярднаю задоўжанасцю, якая будзе пагашацца з сёлетняга бюджэту. Паводле кіраўніцтва Куратарыі самай пільнай задачай у гэтым годзе будзе завяршэнне будовы школ у Шудзялаве, Кузніцы-Беластоцкай, Беластоку (электрычны тэхнікум) і Кляшчэлях.

Праўдападобна ўжо праз два гады ў Беластоку на аснове Філіяла Варшаўскага універсітэта ўзнікне **самастойны універсітэт**. Прарэктар філіяла праф. **Уладзіслаў Сэрчык** прадставіў міністру нацыянальнай адукацыі **Аляксандру Лучаку** ліст у справе праекта стварэння універсітэцкай вышэйшай навучальнай установы ў Беластоку. Згаданы ліст падпісалі таксама прэзідэнт горада і ваявода. Трэба спадзявацца, што справа трапіць у Сейм, паколькі стварэнне універсітэта можа здзейсніцца шляхам сеймавай ухвалы.

На чатырох беластоцкіх вышэйшых навучальных установах штудзіруе **каля 190 палякаў з-за ўсходняй мяжы**. Найбольш студэнтаў вучыцца ў Філіяле ВУ — 115, з ліку якіх 98 — гэта грамадзяне Беларусі. Так вялікая колькасць навучэнцаў вынікае з факта, што „Вспульнота Польска” стварыла ў Гродне цэнтр завочнага навучання па педагогіцы, у якім займаецца 57 студэнтаў.

**Арганізацыйны камітэт Беластоцкай рады аграбізнесу** ўзнік у Беластоку па ініцыятыве 29 суб’ектаў — сялян і прадстаўнікоў аграпрамысловага сектара. Мэта рады — дасягнуць сусветны ўзровень сельскагаспадарчай эканомікі і прыдбаць новыя рынкі збыту.

**Ваяводская ўправа па працаўладкаванню ў Беластоку** выдала ў мінулым годзе 69 дазволаў на працу для чужаземцаў. Апрача беларусаў, якіх працуе ў нас найбольш, на тэрыторыі ваяводства займаюцца яшчэ ўкраінцы, немцы, расіяне, літоўцы, казахі, узбекі, амерыканцы, кітайцы і адзін датчанін.

**Супраць прыняцця на працу** ў фірме „Кольпіс” у Кольне швачак з Беларусі і Украіны пратэстуе мясцовая „Салідарнасць”. Згаданай фірме патрэбна 200 швачак, але з увагі на нізкае зацікаўленне мясцовых беспрацоўных прыняла яна 25 швачак з Усходу, а цяпер намерваецца прыняць чарговых 80 жанчын з Беларусі і Украіны. Кіраўніцтва фірмы не разумее сутнасці гэтага пратэсту, паколькі мясцовыя жанчыны не хочуць у ёй працаваць.

**У Гайнаўцы** адбылася сустрэча Управы горада з кіраўнікамі прадпрыемстваў, ваяводскімі і скарбовымі ўладамі. Бурмістр горада **Ядвіга Рудзінска-Патэюк** прадставіла інвестыцыйныя праблемы Гайнаўкі. На сустрэчы ішла гутарка аб эканамічнай сітуацыі прадпрыемстваў і аб пагрозах для іх развіцця ў будучым.

**Надаць усёй польскай частцы Белавежскай пушчы статус нацыянальнага запаведніка** — такі пастулат сфармулявалі на супольным пасяджэнні ў Белавежы Дзяржаўная рада аховы прыроды, Камітэт аховы прыроды ПАН і Навуковая рада Белавежскага нацыянальнага парку. Удзельнікі пасяджэння ўхвалілі зварот да Сейма і Сената з просьбай падтрымаць пастулат і дапамагчы ў яго ажыццяўленні.

**Фонд пушчанскіх гмін** (у састаў якога ўваходзяць гміны: Белавежа, Нараўка, Гайнаўка і Дубічы-Царкоўныя) праўдападобна атрымае ад сусветнага банка 400 мільёнаў старых злотых з прызначэннем на ахову асяроддзя. Фонд намерваецца перадаць па 200 млн. зл. Дзіцячаму садку ў Белавежы і Дому грамадскай дапамогі ў Старыне на мадэрнізацыю ацяпляльнай сістэмы — з вуглевай на газавую, што абмяжуе колькасць выкідаў серных злучэнняў у атмасферу.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ „У НІВЕ”

> Рэпартаж Г. Кандрацюк з Трасцянкі.

> Лёнік Тарасэвіч адказвае на закіды Дар’юша Мялешкі.

> Уладзімір Юзвюк ставіць закіды Сакрату Яновічу.

> Новыя творы „белавежцаў”.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Блок дэмакратычных сіл

12 студзеня г.г. старшыня Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк, старшыня Сацыял-дэмакратычнай грамады Алег Трусаў, кіраўнік Беларускай сялянскай партыі Яўген Лугін, старшыня Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі Мікола Крукоўскі і лідэр Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Алесь Апрышка падпісалі дэкларацыю прынцыпаў стварэння перадвыбарчага блока дэмакратычных сіл. У аснову блока пакладзены забеспячэнне правоў чалавека, стварэнне прававой дзяржавы, умацаванне суверэнітэту рэспублікі і правядзенне рашучых рынкавых рэформаў. Да 5 лютага г.г. гэтая дэкларацыя адкрытая для падпісання тымі партыямі і арганізацыямі, якія падзяляюць прынцыпы дзейнасці перадвыбарчага блока. Пакуль па-за гэтай структурай знаходзяцца Аб’яднаная дэмакратычная партыя Беларусі і Партыя народнай згоды, якія прымалі ўдзел у перамовах наконт стварэння блока. Магчымым ёсць стварэнне асобнага аб’яднання.

## Польская дэлегацыя ў Менску

Прэм’ер-міністр Міхаіл Чыгір прыняў кіраўніка дэлегацыі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Польшча міністра Анджэя Мільчаноўскага, які прабываў у Менску з афіцыйным візітам. У ходзе гутаркі былі закрануты пытанні польска-беларускіх адносін, барацьбы са злачыннасцю, развіцця эканамічнага супрацоўніцтва. Беларускім бокам зразуменнем была сустрэта прапанова аб абмене між дзяржавамі на пастаяннай аснове афіцэрамі сувязі для каардынацыі дзеянняў праваахоўных органаў у барацьбе з міжрэгіянальнай і міждзяржаўнай злачыннасцю. На сустрэчы разгледжана таксама пытанне аб будаўніцтве польскіх школ на тэрыторыі Беларусі. У размове прыняла ўдзел пасол РП у Беларусі пані Альжбета Смулэк.

## Ведзьмаковае злачынства

Рэспубліканская пракуратура ўзбудзіла справу па факту публікацыі ў газеце „Свабода” твора Ведзьмака Лысагорскага, які закранае гонар і годнасць прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Крымінальная справа ўзбуджана з-за абразы прадстаўніка ўлады.

## Ці вярбуюць наёмнікаў

Інфармацыя аб тым, што міністэрствы абароны і ўнутраных спраў Расеі праводзяць на тэрыторыі Беларусі вярбоўку грамадзян рэспублікі да ўдзелу на баку расейскіх узброеных сіл у ваенных дзеяннях супраць прыхільнікаў Джахара Дудаева ў Чачні, пакуль толькі на ўзроўні чутак. Цяпер беларускія спецслужбы займаюцца праверкай гэтай інфармацыі і пакуль не маюць канкрэтных фактаў, якія пацвярджаюць або абвяргаюць яе сапраўднасць.

## Шчодры вечар

Прыгожая традыцыя нарадзілася тры гады таму ў вёсцы Ліпень Асіповіцкага раёна. 13 студзеня, напярэдадні Новага года па старому стылю, тут наладжваецца вялікае свята народных традыцый, якое атрымала назву „Ліпеньскія шчадроўкі”. Сёлета ўсё пачалося з шумнага кірмашу з тэатралізаваным прадстаўленнем. У рамках свята ў мясцовым доме культуры прайшоў таксама фестываль калядных праграм, у якім прынялі ўдзел сем лепшых калектываў раёна.

## Хочаш размаўляць — плаці!

На працягу гэтага года Брэсцкае ўпраўленне сувязі і інфарматыкі плануе ўвесці плату за мясцовыя тэлефонныя размовы. Апрача абанентнай платы ўладальнікі тэлефонаў будуць вымушаны за кожную хвіліну размовы звыш усталяванага ліміту аплачваць даражэй.

## Радыеактыўная звярына

Не ўдалося пакаштаваць свежаніны паляўнічым Хвойніцкага раёна. Усе дванаццаць дзікоў, здабытых імі па спартыўных ліцэнзіях, былі непрыгодныя да ежы. Намнога вышэй за нарматыўны ўзровень утрымання радыенуклідаў і мяса лася. Застаецца толькі здзіўляцца, чаму выдаюць діцэнзіі на адстрэл звяроў у раёнах густа пасыпаных радыеактыўным попелам.

## Скарб Напалеона

У вёсцы Гарадзечна Пружанскага раёна, дзе нядаўна адчынілася праваслаўная капліца ў гонар воінаў, што загінулі ў 1812 г., новая, сапраўды сенсацыйная падзея. Тут знойдзены найбуйнейшы скарб Напалеона, які амаль два стагоддзі беспаспяхова шукалі ўсе археолагі. Знайшлі яго выпадкова, калі ў калгасе пашыралі свінагадоўчы комплекс і спатрэбілася правесці земляныя работы. Спецыялісты яшчэ ўстановяць сапраўдную вартасць знойдзеных прадметаў, але ўжо стала ясна, што каштоўнасць антыкварыята вымяраецца сотнямі тысяч долараў.

## Фальшывыя рублі

У абменным пункце гродзенскай гасцініцы „Гродна” два прадстаўнікі малога бізнесу меркавалі здзейсніць буйную справу з дапамогай фальшывых расейскіх рублёў. Дзякуючы міліцыі фальшываманетчыкі былі арыштаваны і праведзена вобыск іх кватэр, дзе знайшлі мільёны падробленых расейскіх грошай. З гродзенскай кватэры крымінальны шлях вядзе ў Польшчу.

# „Слава рожденному”

*Працяг са стар. 1*

развітанне. Ад таго часу ўжо не дзейнічаў, заняпаў цалкам. Добра было, успамінаюць жанчыны, калі працаваў з намі Янка Мордань. Ездзілі ўсюды, выступалі ў Беластоку, Бельску, Гарадку, Чаромсе, Плёсках, Зубаве, Піліпках. Нават за граніцу паехалі — у Іўе.

* * *

Фактычна са спевам жанчыны не разлучаліся ніколі: у тэатральным калектыве былі і спевы, заўсёды калядавалі, спявалі ў царкве. Сёлета, калядуючы, жанчыныназбіралі 6 мільёнаў злотых. Усё на царкву. Нават дзеткі хваліліся, што на Каляды кожнае з іх „выспевала” па мільёне. Куды пойдуць грошы? — Адзін заўтра купляе куртку, другая хоча купіць сабе нешта на заканчэнне школьнага года, а трэці збірае на камп'ютэр.

Жанчыны і дзеці наперабой расказваюць пра сябе. Заўважаю, што некаторыя з дарослых гавораць з намі на беларускай літаратурнай мове, а не на гаворцы. Пытаюся, адкуль так добра ведаюць мову. — А ў нас жа ад першага да восьмага класа была беларуская мова. Абавязковы быў гэта прадмет, а не так, як цяпер у Рыбалах, дзе вучацца нашы дзеткі. Цяпер вывучае яе толькі той, хто мае на гэта ахвоту.

— У нас белорускья мова то так была дэсь да гэтай дэмакратыі, — сцвярджае Аляксандр Раманюк. А сёння з васьмі прыйшоўшых сюды пасяваць калядкі дзетак на беларускую мову ходзяць толькі двое. Але ўсе, апрача адной — былой беластачанкі — цудоўна гавораць на сваім палешуцкім дыялекце. Яшчэ не навучылася, відаць, тая беластачаначка, хаця расказваюць людзі, што ў недалёкіх Стральцах немка, якую ўзяў мясцовы хлопец за жонку, за сем гадоў, што тут жылі, навучылася так гаварыць, быццам бы ў гэтай вёсцы і нарадзілася.

* * *

Пачынаецца рэпетыцыя. У Драгічыне жанчыны хочуць заспяваць дзве калядкі: „Слава рожденному!” і „Я умом ходила”. Ніна Філіпюк паказвае мне свой сшытак з перапісанымі царкоўнаславянскімі песнямі. Старанна выкаліграфаваныя, з *-ер* і *-яць*. Яна то ў нас перапісчык, кажа нехта!

Дзіцячы калектыў мае заспяваць калядкі „Небо і земля” і „Рождество Христово”. Дзеткі з 5—8 класаў. Мо яны яшчэ і не занадта моцныя ў спеве, але хочуць заспяваць у ваяводскім аглядзе.

У жаночым калектыве жанчыны рознага ўзросту. Наймалодшая, Ліда Андраюк, — з 1951 года нараджэння, найстарэйшая, Анна Раманюк, — з 1922 года. Пахрыплі мы, бо закалядавалі, кажа яна, але ніякія тлумачэнні тут непатрэбныя. Яна і спявае, і тэксты пажаданняў сама складае. І нечым з бойкасці і выгляду напамінае мне славутую Ніну Мушынскую.



*Жанчыны з калектыву сабраліся ў вясковым клубе на рэпетыцыю.*

— Я вам скажу, — Аляксандр Раманюк бачыць маё здзіўленне і захапленне. — Яна была санацыйнай настаўніцай. навучыцелькаю.

— Не санацыйнай, а за Савєтаў! — прапраўляе цётка Анна.

Мо таму ўсё ёй прыходзіцца лёгка. Адна з Арэшкава сказала ёй, што некалькі начэй не спала, усё пажаданні складала. А я то не, смяецца цётка Анна, дровы нясу, то і ўкладаю.

На конкурсе „Беларуская песня '95” паўлаўскі калектыў хоча выступіць з дзвюма надта старымі рэгіянальнымі песнямі, якіх ніхто цяпер не спявае. Адкапала іх Анна Раманюк. Адной ужо гадоў сто, кажа яна. Я яе яшчэ з дзяцінства памятаю — „Ой ты, вэрбанько кучаравая”.

А крыху зычанняў, што Анна Раманюк склала, я запісала: „Дай Божа вам дарылассе, множылассе ў коморы, в оборы, на полю, на загоні, коб копа была коло копы, а сноп коло снопа, коб господар между снопамі стояў, як месэць между гвяздамі. Дай Божа вам усё збылосе, радасно жылосе. Коб вашы молодые пары шлюбы бралі, для дедкуў і бабкуў на поцеху внукі давалі. Дай Божа, наша жэлане збылосе, а вам у памяці засталосе!”



*Дзеткі з Паўлаў спяваюць калядкі, якія падрыхтавалі на конкурс у Драгічыне.*

Анна Раманюк яшчэ гаворыць доўга. А дыкцыя якая! О так, яна за словам у кішэнь не палезе! Нават у Беластоку ўжо ведаюць яе дасціпнасць. Прадавала яна восенню памідоры. На Палацовай сядае ў „адзінку”, каб ехаць на вакзал. З вялізным кошыкам у руках уваходзіць на прыступкі, а нейкі маладацы чалавек ды і кажа ёй: „Już by lepiej na cmentarz z tymi tobołami poszła!” „Byłam”, кажа яна, — ale tam na jednym grobie pisze: 20 lat, na drugim — 30, a na trzecim — 35. No a ja mam ponad siedemdziesiąt. Nie przyjęli mnie!” Як не грымнуць усе смехам! І месца адразу ў аўтобусе далі, а малады чалавек засароміўся.

* * *

У Паўлах чытаюць „Ніву”. Хто выпісвае, хто купляе ў царкве.

— Як то сталася, што я „Ніву” перастаў чытаць? — са здзіўленнем пытае сам сябе Мікалай Харытанюк, у гасцінную хату якога, пабудаваную ў нейкім амерыканскім стылі, запрасіла нас пасля тае рэпетыцыі яго жонка Вера. — Трэба будзе выпісаць!

Ужо дзесяць гадоў, як Вера і Мікалай Харытанюкі вярнуліся ў родную вёску пасля блукання па Беластоку і ваяводстве. На старыя гады прыйшлі мы ў Паўлы, бо мы адсюль. Тут так добра, кажуць яны.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

### Новыя будынкі ў Гайнаўцы

У Гайнаўцы па вуліцы 3-га Мая амаль два гады праводзілася пабудова двух будынкаў банкаў — для ПКО і для Крэдытнага С.А. У першай дэкадзе снежня іх здалі ў карыстанне. У банку ПКО цяпер прасторна, усё аж блішчыць. Ёсць столікі і лаўкі для наведвальнікаў. Як ні дзіўна, нідзе не відаць стражнікаў. У суседнім, цяпер апусцелым памяшканні ПКО па той жа вуліцы будзе праводзіцца аўкцыён на яго продажу.

Па вуліцы Мар'яна Бучка, на пляцы ля комплексу прафесіянальных школ прыватныя ўласнікі будуюць новыя крамкі. Неўзабаве адна з іх будзе гатова і пачне працаваць.

**Аўрора**



## Выгадаваць шасцёра ўнукаў

*Працяг са стар. 1*

заплаціць. Як дзеткі тут палягаюць, трое на адным ложку, двое на другім — кладаваю іх нагамі ў сярэдзіну — а я там на кухні, на канапцы ў такой баковачцы за печчу, то ўсё перадумаю. Гора сваё паўспамінаю, я ж двое дзяцей ужо дарослых — па 19 гадоў — пахавала. Дачку і сына. Паплачу. Але, каб я адно бедавала, мяне даўно ўжо на гэтым свеце не было б. Дзякуй Богу, што цяпер, хаця ў чужой хатцы, але жыву спакойна і ўнучкаў магу гадаваць. І прашу Бога хоць яшчэ пару гадоў здароўя, каб магла ім дапамагчы. Кася, то ўжо сабе дасць рады, але гэтыя — што без мяне зробяць?

Вяртаюцца са школы дзеці. Пятрусь абувае новыя чаравікі, пойдзе па ёлку. Пытаюцца, ці няма яшчэ Касі.

— Я ж вам казала, што Кася ўвечары прыедзе. О, то добрая дзяўчына. Ад пятнаццатага года жыцця займаецца імі. І мые, і ўбірае, а яшчэ ж вучыцца мусіла. І цяпер, калі прыедзе, шаруе ўсё, сціpae, купацца ўсіх заганяе. І мяне таксама, бо ведаеце, старому чалавеку то не заўсёды памыцца хочацца. Кася пачкі ім ужо на святы пакупляла. Шукалі па цэлай хаце, дзе можна іх схаваць. Пётрусь прынясе ёлку, то як муралі ўсе будуць вакол яе бегаць, убіраць. Боты мы з Касяю ўсім новыя купілі. Калядаваць пойдуць. Прыедзьце да нас святкуючы, паслухаеце, як прыгожа мае ўнукі калядкі спяваюць.

Дзеці сядаюць адно каля аднаго на канапе і спяваюць „Святая Варвара цэркву збудавала”. Пятрусь хваліцца гвяздай, якую зрабіў яму сусед. А бабка Петрусём:

— У майго Пётруся залатыя рукі, усё нешта майструе. Раз самалёт такі вялікі збудаваў з усякага ламачча, што я два тыдні паліла ім у печы. Іншы раз трактар на санках збудаваў, ходнікам усярэдзіне заслаў, сучку туды пасадзіў за трактарыста. Божа, цырк быў! А раз з калегаю, перад Новым годам, да дзесятай вечара на вуліцы са снегу каня ляпілі. На другі дзень раніцай людзі аж прыставалі ад здзіўлення. У нікога ў вёсцы белага каня няма, а тут ляжыць сярод вуліцы. Усе ішлі потым глядзець яго. Пётрусю і навука не ў галаве, толькі каб штосьць майстраваць. Пальцы сабе малатком не раз паабівае.

**ЛЁС ТАКІ**

Пятрусь хоча, калі закончыць пачатковую школу, ісці ў механічную школу ў Бельск. Марта — у Бельскі белліцэй.

— Марта кажа: „Бабцю, я хутка стану з Касяй жыць”. Я ёй на гэта: „А хто ж меншымі займацца будзе. У мяне ж з кожным годам менш сілы”.

Аня, Агнешка і Юстынка прыносяць тры пухнаценькія шчанюкі.

— Гэта адтуль, ад маткі, — кажа бабка Ліда. — Шкада сабачак, мучацца бедныя. Сука аж сем прывяла. Ранейшыя то дзесьці сама па свеце ў зубах парaзносіла. Адзін такі сабачка і ў нас пражыць мог бы, але, вядома, дзеці за дзень-два нацешацца, а мне яшчэ адна забота будзе.

**Суд для маці дзяцей — Мар'і Плішко — забраў бацькоўскія правы.**

— Ці хтосьці ад роскашы судзіцца са сваёю дачкой? А яна яшчэ ў судзе крычала: „Не забярэш ад мяне дзяцей!” Кася там сказала: „Я ведаю, што гэта мая мама, але я ўжо так далей жыць не магу. Я ж не магу нават вучыцца!”

Дзеці кажуць, што пабягуць у другі канец вёскі, аднясуць сабачак.

— Малодшыя бегаюць туды і іхні хлопчык сюды прыбягае. І яна часамі прыходзіць. Як не маюць чаго есці, то і хлеба дам. Яна, сама па сабе, някепскі чалавек. Калі што мела, то дзецям нічога не шкадавала. Толькі жыццё так склалася. Змарнавалася...

**Мікола Ваўранюк**
**фота Юркі Асенніка**

# ДАПАМАГЧЫ МАРЫЛЬЦЫ

Нядзельным вечарам 15 студзеня 1995 г. у Бельскім доме культуры прайшоў дабрачынны канцэрт з мэтай дапамагчы настаўніцы Марыі Базылюк-Саснюк. Прыпомню, што Марылька — настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім — чакае складанай аперацыі прышчаплення касцявога мозгу. Кошты аперацыі ўсё павышаюцца. У дапамогу падключыліся школы, розныя ўстановы, прыватныя людзі не толькі з Бельска, але і з аколіцы. Ёсць нават узносы ад нашых чытачоў з другога канца Польшчы ды ад сяброў Марылькі з замежжа. Але ўсё яшчэ існуе вялікая патрэба ў дапамозе.

І вось бельскія беларускія калектывы рашылі прынесці свой уклад у гуманітарную акцыю. Перад гледачамі выступілі: дзіцячы калектыў з „тройкі" „Жаравінка", дзяўчаты з Беларускага ліцэя імя Бранішлава Тарашкевіча, хор „Васілёчкі" і гурт „Маланка". На заклік адгукнуліся два эстрадныя гурты — „Рэаль" і віцебская „Грамада", якая гасцявала якраз з нагоднімі канцэртамі на Беласточчыне. Хлопцы выступілі супольна і, няглядзячы на стомленасць, заспявалі надзвычай зладжана, бадзёра. Зрэшты, усім выканаўцам належыцца падзяка, не толькі за высакародную справу, але і за высокае мастацтва ды цудоўны канцэрт.

Уваход на канцэрт быў свабодны. Адно каля дзвярэй стаяла моладзь са скарбонкамі. Агулам, у гэты вечар, назбіралі 6 мільёнаў 800 тысяч старых злотых. Усім ахвярадаўцам — дзякуй!

М. В.

P.S. Жадаючыя дапамагчы, могуць уплачваць грошы на рахунак:
Fundacja Pomocy Marylce
490410-954-132
BRR „Rolbank" SA f/ Bielsk Podlaski




*БАРЫС РУСКО*

## Голас маўчання

I

Гісторыя цягучая,
як прастора ў далонях часу,
і мяккая,
і крышыцца,
і можна з яе зляпіць ідала
на сваё падабенства,
і адзець у смокінг,
і назіраць у ястрабіным палёце,
і як люстэрка надзённага
клопату,
і як смуродную лужу,
і як усмешку з-за вугла,
і як галубку з пасланнем
у дзюбе.

II

Вада над берагам гарызонта,
а лава барвовая,
і стыне,
а зямля ў густой імгле,
і няма птушак,
бо няма зерняў,
і няма зелені,
бо не відаць сонца
і на зямлі ноч,
без месяца,
і слова яшчэ спіць,
а кліны маланак языкастыя,
а роспач неба крыклівая.

III

Боль і смерць,
і падла ў зубах,
і вочы адурэлыя.
Стада гадаў спасвае сонца
і папараць вырасла пад неба.
У гэтым свеце знік гандаль.
Тут мэты вышэйшыя.
Відаць, так трэба,
не было іншых унушэнняў,
а як і былі,
уладная рука адхіліла.

IV

Чым наша эпоха
пераўзышла юру?
Гадаў няма?
На руцэ гадзіннік,
што лічыць хвіліны
ў нікуды?
Сёння ўсяеднае
і згаладнелае
натолькі,
што гатова праглынуць
самое сябе.

V

Святыня ласкі і дабрыні
немаладая,
колькі кніг напісалі вякі,
колькі кветак прыгожых,
да канца не расцвіўшых,
і наказы,
шчыты,
ланцугі разнамасныя,
і словы, і ўчынкі, і кроў,
асэнсаваць якую не можа
мудрэц.

VI

А за дзвярыма глухімі
спапялелыя косці
і гукі траскучыя
стаўпоў інквізіцыі,
і крокі пакутных ахвяраў
нявінных,
і спеў сірэнін ілгуноў.




## Не ў сіле Бог, а ў праўдзе

Гэтыя цудоўныя словы вельмі даўно таму сказаў вялікі рускі князь і палкаводзец Аляксандр Неўскі. Думаю, што яны добра падыходзяць да сённяшняга бурлівага часу, калі нашы гісторыкі адкрываюць беларускіх герояў, якіх лёс быў дагэтуль белай плямай, прыкрытай пылам падазронасці і знявагі. У сваёй адгалосцы хачу падзяліцца сваімі ўражаннямі ад лёсу аднаго з такіх герояў, Мікалая Дзямідава, якому быў прысвечаны артыкул Алега Латышонка п.з. „Дзень герояў" („Ніва", н-р 48 ад 27.11.1994 г.). Аўтар апісаў шлях нашага земляка, долю якога хацелі выкінуць з людской памяці так бальшавікі, як і палякі.

Мікалай Дзямідаў паходзіў са слаўнага роду Каліноўскіх, а Кастусь Каліноўскі прыходзіўся яму прадзедам. М. Дзямідаў душою і сэрцам любіў свой народ і змагаўся за незалежную Беларусь. Меў выдатную адукацыю, якая ў той неспакойны час дапамагала яму спраўляцца з рознымі жыццёвымі вірамі. Урад Пілсудскага крывым вокам глядзеў на дзейнасць беларускіх патрыётаў і доля нашага героя, які арганізаваў беларускае войска, у міжваеннай Польшчы не была салодкай. Спазнаў ён беспрытульнае жыццё без пастаяннага месца, горыч прайгранай барацьбы, хаця яна яшчэ не кончылася. Пасля савецкая акупацыя Латвіі і Дзвінска, дзе пражываў М. Дзямідаў, потым арышт і турма на Лубянцы. І тут крышку шчасця да Дзямідава ўсміхнулася: выйшаў ён адтуль, адкуль мала хто выходзіў. Падчас нямецкай акупацыі Дзямідаў зноў дзейнічаў на беларускай ніве, але калабарацыяй з немцамі не займаўся. Пасля вайны падаўся ў эміграцыю, дзе далей працаваў не апускаючы рук, быццам прадчуваючы, што неўзабаве будзе камунізму крышка і Беларусь стане незалежнай дзяржавай. Аднак не прыйшлося яму гэтага дачакацца.

Магчыма, што мая адгалоска і непатрэбная, але здаецца мне, што наўрад хто іншы нешта напіша і то па простай прычыне: нашыя людзі настолькі прасякнуты камунай і „райскім" жыццём у ёй, што чыстая праўда да іх не даходзіць і хто падняў руку на бальшавізм, і хаця ў слушнай справе, — той ужо вораг у іх вачах. Але не ў сіле Бог, а ў праўдзе. А праўду павінны ўсе шанаваць, хаця ведаем, што яна часамі горкая і коле ў вочы.

**Мікалай Панфілюк**

# ВЯНЕЦ

Звянчаць словы ў ідэальную пару — адвечная мэта кожнага аўтара.

І калі святар бывае абдораны божай іскраю, то жыве такая пара доўга і шчасліва, а нават і грамаду ПАТОМКАЎ прыжыве.

Бывае і так, што святар сам сябе апране ў рызу і ахвотна вянчае ўсё, што яму пад кадзіла схіліцца. Выходзіць такая пара з ягонай святыні смешная, каб не сказаць ідыятычная, і пляцецца ў папяровае жыццё. Ніхто яе не разумее ды ніхто не чакае.

Такую вось пару сустрэў я аднойчы на старонках „Нівы" (н-р 2 ад 8 студзеня 1995 г., с. 10). ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫ-ПАТОМАК — глядзеў я на гэтае саноўна-фацэтнае сужонства з усіх бакоў, маршалкі крычалі: горка!, а я нічога не разумеў, хаця, напрамілы Бог, кілішка нават у рукі не ўзяў.

ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫ ПАТОМАК — паняцце доўгае бы Дняпро, а шырокае, як самы шырокі стэп у сіняй Украіне.

Дзякуючы чалавеку, які сасватаў гэтыя два словы, цяпер і Ты, Дарагі Чытач, не толькі патомак, ананімных у гісторыі, Колі і Марусі.

Ты цяпер — ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫ ПАТОМАК Баторыя!

Ты — ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫ ПАТОМАК прусаў, яцьвягаў, а хто ведае, мо нават самога Фрэда Флінстана з каменнага веку.

Ты цяпер мацнейшы за рымскага Цэзара: усё-такі можаш быць ягоным ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫМ ПАТОМКАМ, а ён Тваім — не!

Чым далей у прошласць, тым большая ПАТЭНЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ, што сарока з-пад хваста на гэты белы свет Цябе не выкінула.

На працягу вякоў людзі валачыліся туды і назад, а хто з кім начаваў — адна пярына цяпер ведае.

Дарагія Чытачы!

Не выкарыстаць гістарычны шанц, які стаіць перад Вамі, гэта проста грэх! Бярыце справы ў свае рукі! Закладайце Клубы ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫХ ПАТОМКАЎ! Хто Аляксандра Македонскага, хто Гедыміна, а хто яшчэ Дракулі ці Пікаса. Ідалаў у гісторыі дастатак. Усім, хто праяўляе схільнасці да самакалечання, а таксама садыстам і мазахістам прапануюцца Клубы ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫХ ПАТОМКАЎ Падляшскага Селяніна.

Свату, які звёў пару ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫ і ПАТОМАК у сужонства, дзякую і кланяюся рабою шапкаю да зямлі. (Як прадбачылі прарокі, знайшлася яна, хаця дашчэнту памятая. Прыгожа загорнутую ў адну бельскую газету прынёс мне яе нейкі чалавек. Казаў, што пасля вяселля вычаралі на гэтай рабой няшчасніцы такія камедыі, з якіх будуць ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫЯ ПАТОМКІ. Як піць даць!)

**Міхась Андрасюк**

# Расказ дзеда Хмяля з Вітава

**Пра партызанаў „Скамароха"**

„Мой родны брат быў у той бандзе; Іван Хмель.

Як Маркоўскі Іван жаніўся з Нюрай, дачкой Баніфацавых (іх прозвішча ўжо не памятаю) з Грабаўца, дык паехалі туды на вяселле. На вяселлі сабраліся з Грабаўца і Дубіч. Сказалі, што трэба партызанку рабіць, і кулямёт далі.

Яны зрабілі праўдзівую банду. Жылі ў пушчы, паставілі шалашы. Ніякі гаёвы не зайшоў у лес. Мелі чатыры коней. Брат хадзіў у вопратцы лесніка, перапаясаны патранташамі. Баба Алеся з Кляшчэль, жонка Нічыпара Назарука з Вітава, хлеб ім пякла. Цягала яе пасля за гэта паліцыя, але што цяжарная тады была, дык кінулі.

У Германа (Шыманюка — А. Л.) было каля 60 чалавек. З Вітава шасцёх: Іван Хмель „Качубей" (1904 год нараджэння), Онысь Захожы, Нічыпарук (імя не памятаю, ад Бідусёвых), другі Нічыпарук, Аляксей (Габрусёў), Васіль Тамашук (1904 год нараджэння) і Яўхім Іванюк.

Як у Кляшчэлях напад зрабілі, дык набралі гарэлкі і каньяку. Брат прынёс дахаты пляшку. Бацька сказаў на той каньяк: „Згубіш нас, сынок". З Кляшчэль паліцыя ішла следам за паперкамі ад цукерак.

Аднойчы брат прынёс Сімцы партсігар з чыстага золата. Як паліцыя рабіла вобыск, забрала і партсігар, і бацькавы залаты гадзіннік (выпуск Павел Бурэ).

На Корхах былі Ёсіп і Васіль. У Алькевіча (лесніка — А. Л.) былі два сыны: Зыгмунт і Стэфан. Ёсіп з Корхаў і Стэфан хадзілі да адной дзеўкі. Стэфан — гаёвага сын, а Ёсіп — што ж, прыйдзе і пойдзе збяднелы. Тады задумалі забіць Алькевічаў. Цягнулі жэрабя, хто заб'е. Мой брат выцягнуў.

Прыйшлі ноччу з пушчы. Звязалі рукі маці, бацьку, Стэфану і Зыгмунту ды вывелі іх у лес. Брат развязаў рукі Алькевічу і сказаў, каб уцякаў. Абодвух сыноў забіў Ёсіп Корх; і маці забіў, хоць спачатку адпусціў яе на сто метраў.

Тады паліцыя акружыла пушчу, але ўсе ўцяклі. Уцякалі на Літву, але не даходзячы да Беластока якісь ксёндз іх заўважыў і паведаміў паліцыю. Толькі Ёсіп уцёк.

Як усе паразбягаліся, Васіль Тамашук думаў, што ніхто яго не будзе знаць і жыў у хаце спакойна. А там ужо на яго давалі... што ён у Расеі паноў (магчыма: папоў — А. Л.) перабіў, мусіць з дваццаць, такі быў на іх заўзяты. Прыйшла паліцыя і ўзяла яго. Маці яму ў турму передала ў штанах пілюльку з атрутай і ён атруціўся.

Яўхім Іванюк дастаў 12 гадоў, з чаго адсядзеў 9.

Захожы адсядзеў паўтара года, бо быў малалетні. За астатніх саветаў быў чыгуначным майстрам на адгалінаванні Гайнаўка — Белавежа. Як немцы наскочылі на саветаў, награбіў у ваенным гарадку тры фуры дабра і на возіку перавёз дахаты. Пасля вайны польская паліцыя ўсё яму забрала. Тады ён абразіўся і паехаў у Саветы. Там яго саслалі ў Сібір.

Нічыпарук Аляксей таксама пасля вайны паехаў у Расею.

Як злавілі хлопцаў, дык усіх бацькоў пабралі і білі за сыноў. Вязалі ў палку як корнаткі (пасечаны хмызняк — А. Л.) і білі шомпаламі так, што трэскалі кашулі і цела. Піць не давалі, толькі сікі.

З Дубіч у бандзе быў Тарасаў сын. Тарас (прозвішча не памятаю) меў галаву. „Дзе ваш сын?" — пытаецца яго паліцыя. Ён нібыта нічога не ведае: „У бандзіты пайшоў? Сам зарубаю". І адстала ад яго паліцыя. Габрусёў (бацька Аляксея Нічыпарука? — А. Л.) сказаў: „Ганяе смаркач, халера ведае дзе", дык яго таксама не ўзялі.

Мой брат не пайшоў тады з іншымі, дома хаваўся. Ведалі пра тое толькі сястра і маці. На агародзе зрабілі сховішча. У ім прабалонтаўся аж да вясны. Пасля падрабіў дакументы, што ўцёк з Расеі, а яго раз і адаслалі ў Расею. Паехаў у Бугуруслан, дзе мы ў бежанстве былі. Сталін усім тым, хто перабег, даў 25 гадоў. Даў і майму брату, не вярнуўся ўжо Іван".

*Далей будзе.*

**Алег Латышонак**

# Усё пачалося ад „Хаткі"

17 снежня 1994 г., у суботу, на могільніку Роса ў Вільні адбылося адкрыццё помніка ў гонар Альбіна Стэповіча, беларускага грамадскага дзеяча, кампазітара, публіцыста. Пра яго актыўнае жыццё я ўжо пісала у „Ніве" (н-р 15 ад 10.04.1994 г., с. 10) і ў „Czasopisie" (1993 г., н-р 9, с. 2—4).

Нагода была асаблівая — 60-я ўгодкі смерці Альбіна Стэповіча. Трэба было амаль аднаго пакалення, каб на магілу вярнуць помнік. На Літаратурнай горцы ён ужо чарговы.

Падзеі пасляваеннага перыяду давялі да забыцця асобы і месца пахавання А. Стэповіча. На жаль, адышлі ўжо людзі, якія памяталі яго. З магілы пасля вайны прапаў крыж з табліцай. Аказваецца, што таблічу перахоўвае Міхась Казлоўскі з Маладзечна. Пра гэтую магілу Эдмунд Малаховіч напісаў у сваёй кніжцы „Cmentarz na Rossie w Wilnie" (Wrocław 1993, s. 272): „Skromna mogiła z drewnianym krzyżem i tabliczką z napisem:

„Ś.P. Albin Stepovič
pom. 18 śnieźnia 1934 h.
prażyŭšy 40 hadoŭ.
Śpi z Boham u Rodnaj Ziamlicy".

У сям'і братанка астаўся квіток з закупкі месца на магілу і яго аплата да 2033 года! Знайсці магілу не было цяжка, тым больш, што знаходзілася яна побач магілы Казіміра Сваяка, брата Альбіна.

Сумна, што асоба разам з крыжам перастала існаваць у беларускай гістарычнай свядомасці. У вяртанні А. Стэповіча дапамагла сям'я, якая пражывае зараз у Гданьску. А пачалося ўсё ад „Хаткі"... Беларусы ў Гданьску пачалі шукаць нейкага паратунку, каб захаваць памяшканне і надумалі стварыць „Хатку". На сход 23.05.1992 года запрашалі мы асобы, па тэлефоннай кніжцы, з „беларускападобнымі" прозвішчамі. Так мы трапілі на Стэповічаў, братанкаў Казіміра Сваяка і Альбіна. Тады я ведала яшчэ толькі пра Сваяка. Спадар Вітаўт сказаў мне пра пасла ў польскі Сейм Альбіна Стэповіча. Пра актыўную яго дзейнасць — якая моцна мяне зацікавіла — сведчаць публікацыі міжваеннага друку і дакументы, захаваныя ў архівах ад Гданьска да Менска. Так назбіралася шмат багатай спадчыны — больш за 200 старонак. Часта матэрыялы трапляліся выпадкова, як напрыклад, знойдзеная ў Дзяржаўным архіве ў Гданьску інфармацыя польскай разведкі, што ў Сопаце затрымаўся беларускі радыкальны пасол А. Стэповіч.

Патрэбу ўзнаўлення помніка прапанавала я розным асобам пры розных нагодах, таксама як выданне спадчыны А. Стэповіча. На жаль, малое было зацікаўленне здзяйсненнем маіх дум.

На шчасце заангажаваліся пляменнікі з Гданьска, якія сфінансавалі пабудову помніка, а сям'я Людвікі і Сяргея Вітушкаў з Вільні пільнавала справу на месцы, а менавіта дапамагла аформіць дакументацыю і выкананне помніка, а таксама арганізаваць яго адкрыццё і прыняць гасцей. Ідэйна і фінансава справу падтрымалі таксама генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Гданьску Аляксей Шахновіч і спадарыня Ганна Сурмач з „Бацькаўшчыны". Мне на хуткую руку ўдалося падрыхтаваць невялікі зборнічак Альбінавай спадчыны з бібліяграфіяй яго публіцыстыкі (30 старонак) і зацікавіць ягонымі песнямі Ірынея Лаўрашука.

У Вільню з Гданьска паехала адмысловая група: сям'я Стэповічаў — братанкі Альбіна: Вітаўт — прафесар Гданьскай палітэхнікі з сынам Маркам — студэнтам эканоміі Гданьскага універсітэта, і Эдмунд — інжынер-геолаг (на пенсіі) з унукам Артурам Філіпчыньскім — вучнем ліцэя ў Гданьску, рэдактар Польскага радыё ў Гданьску — Анна Сабэцкая, Ірыней Лаўрашук, Ірына Гаданчук, Аня Пяткун, Кася Мацкевіч і я з дачкой Цэлінай.

Вітаўт Стэповіч ехаў у свой родны горад Вільню ўпершыню пасля 1945 года, калі 6-цігадовым хлапчуком разам з бацькамі выязджаў у Польшчу.

Вільня прывітала нас праўдзівым зімовым надвор'ем. Прыехаўшы дзень раней, бо 16 снежня, мы мелі магчымасць прагуляцца па Вільні, знайсці месца, дзе дзіцём жыў Вітаўт, і наведаць беларускую гімназію на Каралінішках. Навучэнцам яе з нагоды Каляд і Новага года перадалі мы ласункі ад Гданьскай фабрыкі цукеркаў „Балтык". Відаць, што гімназія жыве сваім духам і беларускай мовай. Эдмунд Стэповіч перадаў для яе копіі спеўніка Альбіна „За Бацькаўшчыну".

У суботу, 17 снежня, у касцёле св. Мікалая, дзе Альбін вёў беларускі хор, а набажэнства на беларускай мове адпраўляў ксёндз Адам Станкевіч, ксёндз Антон Ёсель з Ашмяны адправіў набажэнства (па-латыні і па-беларуску) за св.п. Альбіна і сям'ю Стэповічаў. Пасля аўтобусам адправіліся на могільнік Роса, дзе помнік адкрылі маладыя прадстаўнікі роду Стэповічаў Марэк і Артур. Айцец Антон высвянціў помнік. Затым над магілай прамаўлялі: Эдмунд Стэповіч, праф. Адам Мальдзіс (сказаў пра старанні ўвесці ў пантэон святых Кастуся Стэповіча), Радзім Гарэцкі з „Бацькаўшчыны". Я коратка расказала пра Альбіна Стэповіча і яго пахаванне 19 снежня 1934 г., калі набажэнства за памерлага адправіў ксёндз А. Станкевіч, а над магілай прамаўляў ксёндз В. Гадлеўскі і спяваў асірацелы касцельны хор. Наш хорык пад кіраўніцтвам Ірка Лаўрашука праспяваў некалькі песень Альбіна (між іншым „Дзе чутны мовы нашай гукі...", „Беларусь перад усім") у касцёле, на могілках і на вечарыне.



*Злева: Ян Стэповіч, Павел Каруза, Альбін Стэповіч; Гдыня, 4 жніўня 1929 г.*

На вечарыне ў беларускім прадстаўніцтве далей цягнуліся прамовы: Ганны Сурмач, Аляксея Анішчыка, Уладзіміра Шчаснага (з пасольства Рэспублікі Беларусь у Вільні), Вітаўта Стэповіча, Хведара Нюнькі... Я расказала пра пошукі слядоў А. Стэповіча ў Цеханоўцы, Казані, ў Засвіры і ў Вільні, пра пуцявіны лёсу беларускага дзеяча і ўспомніла пра яго нязнойдзеныя да сёння дзённік. Эдмунд Стэповіч (1927 год нараджэння) успомніў дзядзьку, які прыязджаў у Барані і як хадзілі яны разам у грыбы. „Заўсёды Альбін насіў з сабой занатоўнік і нешта ў ім пісаў — магчыма ноты", — гаварыў спадар Эдмунд. Успомніў таксама сум і слёзы ў хаце, калі прыйшла тэлеграма з Вільні аб смерці Альбіна. Асаблівая шкада, што няма ўжо сярод нас тых, якія маглі б падзяліцца сваімі ўспамінамі, бо ж апрача гэтага што рабіў, быў чалавекам, са сваёй натурай і характарам. Мне яшчэ ўдалося выслухаць успаміны пра яго св.п. Сяргея Новіка-Пеюна і спадарыні Станіславы Кісель (1907 год нараджэння) з Засвіра, якая памятае Альбіна як прыгожага кавалера. Людвіка ўспомніла, як св.п. Янка Багдановіч гаварыў, што: „Альбін любіў надзець модныя порткі і капялюш, выйсці на праспект і паглядацца за дзеўкамі". Шкада, што такіх „жыццёвых" успамінаў мала.

Пры нагодзе хацелася б, каб вяртаючы з забыцця асобу А. Стэповіча, вярнуць і іншых прызабытых, а дзейных у гісторыі Беларусі людзей, хаця б Тэклю Станішэўскую (настаўніцу), якая таксама пахаваная недзе на Росе, ці Уладзіслава Казлоўскага, блізкага сябру Альбіна, родам з Залесся на Сакольшчыне.

Хацелася б асаблівa падзякаваць Людвіцы і Сяргею Вітушкам і іхнім віленскім сябрам, якія бескарысна заняліся справай і намі — гасцямі. Найбольш карысці, здаецца, ушанаванне памяці Альбіна прынесла маладым нашчадкам Стэповічаў: Марку, які знайшоў у Вільні свае карэнні і пачаў задумвацца над сваёй нацыянальнасцю, і Артуру, які пачаў цікавіцца родам свайго дзеда.

Рэдактар А. Сабэцкая для Радыё Гданьск зрабіла абшырную справаздачу з адкрыцця помніка. Аўтарам праекта помніка з'яўляецца архітэктар могільніка Роса Ж. Мачыёненэ, а выканаўцам — літоўскі каменячос Станісловас.



*Стэповічы (злева): Марэк, Артур Філіпчыньскі, Эдмунд і Вітаўт над магіламі Альбіна і Канстанціна.*

**Лена Глагоўская**

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

## белы рэестр

рэестр белы мне лёс — уваткнуў у далонь
быў прадбачаны воз – быў прадбачаны конь

быў прадказаны міг — на сцяне і ў вачах
і адзін на дваіх — распалавінены страх

адны прыцемкі і — гэтак сама святло
і адно на дваіх — у дарогу вясло

і адзін на дваіх — быў пастаўлены двор
і пралаз быў адзін — на вялікі прастор

свіснуў біч а з калёс — пырснуў белы агонь
і рассыпаўся воз — і спалохаўся конь

недагледжаны міг — з вачэй моўчкі знялі
і адно на дваіх — перасталі дзяліць

развітальны баян — сыграў песню без слоў
цень астаўся а я — на другі бок пайшоў

*АЛЕСЬ ФІЛІПОВІЧ*

## Купала

Мне на сэрцы золатам
вышывалі краты,
шклом пабітым слалі
прамяністы шлях
ды віно атрутаю саладзілі
ў святы...

Каб я ведаў міласць іх
не ў тутэйшых
снах.

*ПЯТРО ЛАМАН*

## Адраджэнне

Самотніка
Чакала кара
Наканавання
Быць толькі сведкам
І рабом
Свайго маўчання.

# Зорка
## старонка для дзяцей

## Школа ў Клюковічах

Клюковічы ляжаць недалёка польска-беларускай мяжы. Гэта самая далёкая мясціна на поўдні Беласточчыны, дзе захавалася навучанне беларускай мове ў школе. „Зорку” тут ведаюць і чытаюць. Малгажата Швец, Магда Ціханюк, Эва Аўласюк, Юрка Грыгарук, Пётр Трахімюк і Пшэмак Сахарчук — вучні розных класаў, якія складаюць групку, што вывучае беларускую мову. Сярод іх ёсць і трэцякласнікі і шасцікласнікі, але ўсе супрацоўнічаюць і дружаць. Каб быць удзельнікам гэтай групы, вучні не лянуюцца прыходзіць у школу на гадзіну раней, чым іх аднакласнікі. Таксама пасля ўрокаў замест гуляць з сябрамі, застаюцца дзеля гэтага прадмета. Дабрацца ім у хату таксама цяжка. Дзеткі з беларускай групы пражываюць не толькі ў Клюковічах, але і ў Вычулках, і ў Літвінавічах. Беларускай мове навучае іх настаўніца Анна Міткевіч, дырэктар школы. Вучні ўжо ведаюць творы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Падабаюцца ім таксама вершы Віктара Шведа. Пшэмак Сахарчук з VI класа ўжо сам напісаў казку.





У Клюковічах я пазнаёмілася з айцом Міраславам Аўксецеюком. Навучае ён тут праваслаўнай рэлігіі. Святар вельмі любіць працаваць з моладдзю.

— Цешыць мяне асабліва тое, што вучні вельмі сур'ёзна ставяцца да рэлігіі. Зараз здараюцца выпадкі, што дзеці з сабой прыводзяць у царкву бацькоў. Наш прыход у Такарах. Каб дабрацца ў царкву, некаторыя мусяць пераадолець нямала кіламетраў, — пахваліў сваіх вучняў бацюшка.

**Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**

## Пішуць школьнікі

### Дарагая „Зорка”!

Мы вучымся ў чацвёртым класе Пачатковай школы, якая знаходзіцца ў вёсцы Арэшкава.

Мы хочам паведаміць Табе, што вельмі цешымся з калядных святаў. У нашых хатах стаяць ёлкі. Мы хадзілі па вёсцы калядаваць.

Раджджаство Хрыстова гэта самае цудоўнае свята.

Жадаем Табе многа здароўя ў Новым годзе. Калі будзеш мець свабодную хвіліну, запрашаем да нас.

**Вучні IV класа**
**з Арэшкава**

### Хітры зайка

Абуў зайка тапкі
не на тыя лапкі.
І на лісцях, і на травах
правы ўлева,
левы ўправа
сцелюцца ў радочкі
зайкавы слядочкі.
Нават хітрая лісіца
можа лёгка памыліцца.
І смяецца ў лесе сойка,
што лісу і нават воўка
падмануў наш зайка лоўка —
даўгавухая галоўка!

### Лісток

Вечар. Цёмна. Не відно.
Хто нам стукае ў акно?
— Гэта з яблынькі лісток,
я замёрз і ўвесь прамок.
Пашкадуйце мяне, дзеці,
упусціце ў дом, сагрэйце!
... А за першым — трэці, пяты,
мы гасцям залётным рады.

**Ала Канапелька**

## Адгаданка

Ці ўмееце гуляць у шахматы? Калі так, напэўна ведаеце, як ходзіць шахматны конь. Калі не ведаеце, пагля-дзіце.

Ход шахматнага каня напамінае літары Г або L, якія могуць стаяць або ляжаць, прытым без разбору, у які бок верхам:

На ніжэйпрыведзенай дыяграме, пачынаючы ад першай у ім літары П, ходам шахматнага каня трэба прачытаць рашэнне з дзевяці літар (тры літары С, Э, І — лішнія).

| | | | |
|---|---|---|---|
| П | А | Н | Э |
| А | С | А | Р |
| Д | У | К | І |

## Вясёлы куточак

Настаўнік латыні пытаецца вучня:

— Што табе найбольш спадабалася ў паводзінах старажытных рымлян?

— Тое, што дасканала валодалі лацінскай мовай.

* * *

У таварным магазіне старож злавіў злодзея.

— Навошта ты накраў алоўкаў!

— Хацеў замазаць мінулае!

* * *

Размаўляюць два вучні:

— Ці цябе таксама бацькі караюць?

— Зразумела!

— А хто больш — маці ці бацька?

— Той, у каго ёсць свабодны час.

* * *

Вудзільшчык хваліцца свайму сябру:

— Ведаеш, я злавіў рыбу вагою ў пяць кілаграмаў.

— Разам з чарвяком?

## Скорагаворка

Жылі-былі тры японцы: Як, Як Якцэдрак і Як Якцэдрак Якцэдронь. Жылі-былі тры японкі: Цыпка, Цыпка Дрыпка, Цыпка Дрыпка Рампампонь.

Пажаніліся тры японцы: Як і Цыпка, Як Якцэдрак і Цыпка Дрыпка, Як Якцэдронь і Цыпка Дрыпка Рампампонь.

Запісаў
**Андрэй Кухарчык,**
**Дуброўшчына**

## Цікаўнасці

* Калі б не рабіць папраўкі ў календары, то ў 10 565 годзе нашай эры першае студзеня прыйшлося б на 21 сакавіка.

* На 1 кв. кіламетры сухазем'я жыве насякомых больш, чым людзей на ўсёй Зямлі.

* На Зямлі ёсць каля 450 відаў насякомаедных раслін.

* Самым дзіўным і складаным дзяржаўным гербам з усіх краін свету з'яўляецца дзяржаўны герб Даніі. У ім выступаюць: сярэбраны крыж, лебедзь, конь з коннікам, тры кароны, конская галава, 6 ільвоў, баран, мядзведзь, 16 сэрцаў і, апрача ўсяго гэтага, дракон.

* Кошка вельмі хутка прывыкае да дому і лёгка знаходзіць яго, калі нават адвезці яе на 7—10 км ад дому. Сусветны рэкорд належыць кошцы нейкага амерыканскага ўрача Марціна. Кошка не палічыла разумным перасяленне свайго гаспадара з Індыяны ў Пенсільванію, уцякла з дому і ў адзін цудоўны дзень з'явілася на старым месцы. Менш за месяц яна прабегла адлегласць у 1 120 кіламетраў.

**Ясень**



*У Пачатковай школе ў Красным Сяле няшмат вучняў, але часамі бывае так, што не ўсім хапае месца ў класах. Як у гэтым выпадку — дзеткі з нулявога аддзела паслухмяна сядзяць на лавачцы на калідоры і слухаюць сваю настаўніцу, якая чытае ім казку.*

**Тэкст і фота М. В.**

# Словы і музыка Крыстафора Сяськевіча



Добра мне жывецца
Я не наракаю
А мая Айчына-маці
Травой зарастае.

Самаход пад хатай
Тэлевізар грае
А мая Айчына-маці
Травой зарастае.

Добру маю працу
Грошай мне хапае
А мая Ачыйна-маці
Травой зарастае.

Файну маю жонку
І дзеці бягаюць
А мая Айчына-маці
Травой зарастае

*(працяг будзе)*

**Крыстафор Сяськевіч:** — Гэтая песня ўзнікла на аснове канкрэтнага здарэння. Аднойчы з сябрам завіталі мы ў Зубры. Ідучы па бруканай, апусцелай вуліцы, мы зачапілі старэнькага дзядзьку. „Але ж у вас вёска заросшая", — кажам. „Ага, — паясніў селянін, — бо ўсе ў горад павыязджалі. Там самаходы, каляровыя тэлевізары, цёплая вада. А мы што? Зарастае радзіма травой". Запаматаліся мне гэтыя словы, дарэчы, тыповыя для нашага грамадства. Перад звязаўскім рэйдам „Сьцяна" я напісаў тэкст і прыдумаў музыку. Песня набыла вядомасць на „Бардаўскай восені". А так, спяваю пераважна пры вогнішчы. Здараецца імправізаваць 2—3 гадзіны. Ніхто гэтых тэкстаў не запісвае, таму на другі дзень сам іх не памятаю.

**Ганна Кандрацюк:** — *Ці карыстаешся нейкімі ўзорамі?*

— Не. Тэмы падсоўвае рэчаіснасць. Некаторыя чуў, раўняюць мяне да Казіка Сташэўскага з „Культа".

— *Як ты трапіў у беларускі рух?*

— У пачатковай школе я быў, як усе — палякам. Калі апынуўся ў сярэдняй школе, сябар з якім я хадзіў на рэлігію, запрасіў мяне ў Брацтва. Там упершыню пабачыў я моладзь, якая сядзела за сталом і паўтарала беларускія словы — якраз вывучалі песню „Дубіноў". Тады амаль ніхто добра не ўмеў гаварыць, пісаць, чытаць па-беларуску, а вывучэнне песні атаясамлівалася з патрыятычнай дзейнасцю. Гэтае першае Брацтва было нават больш беларускае, чым праваслаўнае. Існавала свайго роду мода на беларушчыну. Аднак самай важнай падзеяй было паломніцтва на Грабарку. Быў 1989 год. Пры вогнішчы выступіў „Парнас" і Эля Бэзюк. Сустрэча з гэтым асяроддзем так моцна на мяне паўплывала, што я вырашыў навучыцца іграць на гітары. Тады яшчэ ездзілі гандляваць у Беларусь і маці прывезла мне гітару за 15 рублёў. Можа гэта не надта сціпла, але я ў адзін дзень навучыўся іграць „Беларусачку". Пазней іграў на вогнішчах, сам урэшце складаў тэксты, бо рэпертуару часам не хапала. Мае сябры падтрымалі маю творчасць, таму і спяваю да сёння.

— *Чым займаешся, апрача музыкі?*

— Працую, зарабляю грошы. Пасля матуры вельмі хацеў паступіць на беларускую філалогію. Уступныя экзамены па сённяшні дзень памятаюцца мне як кашмар. Загадалі расказаць, што я чытаў пра беларусаў, літаратуру, мастацтва. Здзівіў камісію, што самавук расказвае пра беларускую літаратуру ў арыгінале. Мабыць, за праяву нацыяналізму палічылі тое, што хацеў пра польскую літаратуру гаварыць па-беларуску. Апрануты быў таксама ў кашулю з Пагоняй. Здавалася б, што ўсё на добрай дарозе. Экзаменацыйная камісія была ўзрушана. Аднак на „Басовішчы" даведаўся, што студэнтам не буду. Шкада. Бацька па сённяшні дзень дакарае, што гэта за беларушчыну.

— *Як ты вывучыў родную мову?*

— У мяне ў хаце маці ўвесь час гаворыць па-беларуску. Але не так проста, здавалася б, навучыцца. Нават калі тая мова была, я, праўду сказаўшы, не прыслухоўваўся. Быццам бы гэтая справа мяне ўжо не датычыла. Мова бацькоў была нейкім вясковым успамінам. Тады толькі, калі я сутыкнуўся з моладдзю з БАСу, ЗБМу гэтыя складаныя справы сталі мне зразумелымі. У войску быў я ўжо свядомым беларусам. Хлопцы з Беласточчыны пры мне таксама не хаваліся. Усё патрабуе думкі, працы і аўтарытэтаў.

— *Як табе падабаецца слова „Звянк", мешаніна „Звязу" і „панка"?*

— Так. Думаю што ўсё жыццё буду адчуваць сябе звязаўцам. Дарэчы, я быў адным з заснавальнікаў беластоцкага ЗБМу.

— *Тады ты адышоў ад Брацтва?*

— Я маю вельмі добрыя ўспаміны з Брацтва. Сёння ў гэтым асяроддзі шмат змянілася, наступілі падзелы, новыя арыентацыі. Напэўна аб маёй сённяшняй прыналежнасці вырашыла гістарычная свядомасць. Не кожны мае такое шчасце як я. Або „пэха".

— *На „Бардаўскай восені" ты атрымаў прэстыжную ўзнагароду. Ці гэта падштурхнула цябе заняцца больш сур'ёзна сваёй творчасцю?*

— Мне гэта ўжо не раз гаварылі. Творчыя планы, гм..., не стаўлюся да іх занадта сур'ёзна. Дарэчы, на гэтай „Бардаўскай восені" я адчуў сябе не надта камфортна. Я хацеў бы іграць з ударнымі інструментамі і дзвюма гітарамі. Думаю, што ў такім саставе выступлю на сцэне, на...

— *На „Бардаўскай восені"?*

— Таксама і на „Басовішчы".

— *Хацелася б, каб пасля нашага інтэрв'ю колькасць тваіх паклоннікаў яшчэ павялічылася. Хаця ведаю, што і так не паспяваеш раздаваць свае аўтографы.*

**Гутарыла**
**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**
**Малюнак Юркі Асенніка**



# Ці вы былі ў Скупавічах?

Няблага было б таму з нас, любенькія, хто ў жыцці толькі булак і салодкага шукае, успамянуць і прадзедаў жорсткі кавалак хлеба. Нялёгка ён даваўся, ды і не заўсёды быў. Вось пры маладосці дзеда Няўдалага, скажам, не тыя зусім былі Скупавічы, што сёння. Паводле апавяданняў бабкі, усе хаты былі адно саломаю крыты. Праўда, дзякуючы таму, што цераз вёску пралягаў гандлёвы шлях з Гродна ў Беласток, была ў вёсцы невялікая царкоўка, ды царкоўна-прыхадская школка з чатырма аддзеламі.

Але з дарослых чытаць-пісаць умелі бацюшка ды псаломшчык, ну, і крыху ўмеў чытаць бязногі Сымон, які ў той час вярнуўся з салдатаў, ды толькі друкаванае.

Дзеда Няўдалага ў вёсцы не любілі. Жыў ён, як не людзі. Людзям вочы мазоліў. Ды і дзівацтвы ягоныя яму карысці ніякай не прыносілі.

А пра Скупавічы ў тую пару па ўсёй губерні пагаворкі хадзілі. Едзе, скажам, селянін са Скупавіч на кірмаш, а каля воза жонка з дзецьмі бягуць. Пытаюцца ў дзеда, чаму сям'і на воз не бярэ.

— А што, я здурэў, кабылу мучыць? Нічога, забягуць.

— Дык жа і кабылу не шкадуеш, пугою лупіш?

— А пуга не мая, у суседа пазычыў.

Або вяртаецца гэты ж селянін з поля дахаты. Жонцы крычыць: „Есці давай!" Баба ж, занятая нечым, нічога згатаваць не паспела. Адпярэзвае гаспадар дзягу ды кажа распранацца аслупянелай бабе.

— Чаго ж гэта ты?!

— Нічога, нічога. Скідай хутка ўсе блузкі, спадніцы...

— Ты што, здурэў? — галосіць жонка. — Дзеці ж у хаце...

— Не буду ж я цябе, дурную, па адзенні лупцаваць! Яшчэ што змарнуецца, парвецца! Кожная анучка ж грошы каштуе!

Нягледзячы на ўсе насмешкі, скупавічане пастаянна багацелі. Тым больш, што на гандлёвым шляху заўсёды тое-сёе прадаць можна было, падзарабіць крыху.

Дзед тым часам, хоць працаваў не менш за іншых, галышом заставаўся. Праўда, сястрычка яго малодшая пасля пачатковай школы ў гімназію паступіла і яе закончыла, дзякуючы дзедавым грошам, ды што за карысць дзеду? Млынарова дачка, якая разам з дзедавай сястрою вучылася, выйшла замуж за ветэрынара і паняю стала. Маёнтачак недзе пад Гроднам купілі. А Неўдалянка, як Неўдалянка. Яшчэ калі ў гімназіі была, чуткі хадзілі, што палітыкамі там нейкімі займалася. Пасля пайшла за нейкага абадранца-настаўніка. Пару разоў брата ў Скупавічах прыязджала наведаць. Ды і падумаць толькі — вясковаю моваю з людзьмі гаварыла, па-простаму! І закончыўшы гімназію! Ну не! Так то паняю не будзеш! Ніхто не здзівіўся, калі іх неўзабаве арыштавалі разам з мужам. Дзеда таксама тады папацёгалі на жандармерыю дзеля нейкіх папераў, што знайшлі ў хаце.

Гасцінны быў дзед. Хто толькі заедзе, таго частуе, чым хата багата. Скупавічане праезджых дарам не кармілі. Гэта яны, кажуць, вынайшлі спосаб, як хлеб гарачым нажом шмараваць: разагрэты над агнём нож тыкалі ў шмалец, хутка вымалі і паціралі ім лусту хлеба. І хлеб быў не посны, і ашчаднасць тлушчу немалая.

І калі дзед яшчэ жаніўся з беззямельнай дачкою парабка, не ўзяўшы пасагу, усе пачалі яго цурацца. Кожнаму дурню казалі, што, мабыць, у Няўдалага навукі браў.

Зраўняла ўсіх першая вайна. Шмат маладых выгналі на фронт, таксама і майго бацьку. Мала няспаленых хат засталося ў Скупавічах.

Няўдалы да смерці застаўся Няўдалым. Людзі паддаліся. Кінулі ўсё. Падаліся ў бежанства. Усё рабілі, каб хоць перажыць.

Дзед Няўдалы пырнуў віламі нямецкага жаўнера, які цягнуў з хлява ягоную апошнюю карову.

Расстралялі яго за вёскаю на ўзгорку. Сёння ўжо нават крыжа няма ў тым месцы.

Бабуля толькі, унучанят пабраўшы на рукі, у той бок зойдзе. Бо дзецям — калі? Пакончалі універсітэты, ганяюцца ўласнымі машынамі. Няўцям ім, адукаваным, што на шырокі шлях па камяністай сцежцы непісьменнага дзеда выйшлі.

**Юрка Геніюш**

*(са зборніка „З маёй званіцы")*

# „Сакаляты" на Беласточчыне

У днях ад 9 да 16 студзеня 1995 г. пабываў на Беласточчыне хлапечы хор „Сакаляты" з расейскага горада Рыбінска. Пра хор папрасіў я расказаць яго кіраўніка, прэзідэнта творчага аб'яднання „Сакаляты" **Сяргея Аляксеевіча Шасцярыкова.**

— Наш хор „Сакаляты" існуе ўжо больш за 23 гады. Працаваў ён пры музычнай школе, якая ўваходзіла ў склад агульнаадукацыйнай школы. Два з паловай годоў таму нашы школы аб'ядналіся яшчэ з дзіцячым садам і так паўстаў Гуманітарна-музычны комплекс, які цяпер займаецца з дзецьмі 3—18 гадоў — ад дзіцячага сада аж да гімназіі. Хор займеў сваю назву ад нашага земляка Уладзіміра Генадзіевіча Сакалова, прафесара Маскоўскай кансерваторыі, народнага артыста СССР. У хоры хлопцы і дзяўчаты спяваюць асобна. Хлопцам па 8—17 гадоў. Такіх хлапечых хораў у Расеі мала; прычыны гэтаму не толькі эканамічныя, хаця і гэтыя нямалаважныя: навука ў школе каштуе чвэрць мінімальнай зарплаты (да новага года 5 000 рублёў у месяц). Весці такі хор цяжка і з той прычыны, што хлопчыкі спяваюць толькі 5—7 гадоў — да мутацыі; пасля з хору адыходзяць. Нягледзячы на гэта, хор мае чым пахваліцца: ён з'яўляецца дыпламантам I Усерасейскага фестывалю хлапечых хораў Геленджык'91. Раней хор быў тройчы лаўрэатам усесаюзных фестываляў народнай творчасці. Да згаданых дасягненняў можна яшчэ дадаць, што выпускнікі хору таксама многа дабіваюцца індывідуальна: многія з іх сталі кіраваць іншымі хорамі і аркестрамі, напрыклад, дырыжорам камернага аркестра ў Архангельску з'яўляецца наш былы харыст Уладзімір Ануфрыеў. Рэпертуар хору даволі багаты: выконваем царкоўную музыку, еўрапейскую музыку эпохі Адраджэння, творы Баха, Гендэля, рыхтуем выкананне кантаты „Stabat Mater" Пергалезі. У маі г.г. будзем адзначаць 50-годдзе Перамогі і з гэтай нагоды хор рыхтуе праграму з песнямі Вялікай Айчыннай вайны. Кожны год рыхтуем па 5 новых праграм, з якімі выступаем на канцэртах. У 1992 годзе мы прымалі ўдзел у фестывалі „Залаты Плёс" у Плёсе над Волгай. Спявалі там разам з хорам а. Негрэвіча з Гайнаўкі. Вынікам гэтага быў прыезд нашых дзяўчат з канцэртамі калядак на Беласточчыну ў 1993 годзе. Архіепіскап Сава і дырэктар Фестывалю царкоўнай музыкі Мікалай Бушко запрасілі наш дзявочы хор да ўдзелу ў фестывалі ў Гайнаўцы, дзе мы сталі лаўрэатамі. Там дамовіліся абмяняцца візітамі з Дзіцячым хорам Сабора св. Мікалая ў Беластоку. Хор Алы Дубец пабываў у Рыбінску ў лістападзе мінулага года, цяпер нашы хлопцы прыехалі з рэвізітам. Гэта першы выезд хлопцаў за мяжу. У дзяўчат планы багацейшыя: ад 26 студзеня да 19 лютага едуць у ЗША, дзе выступяць у Вашынгтоне і ў штатах Тэнэсі і Вірджынія. Пасля, ад 31 мая да 5 чэрвеня прымуць удзел у IV Еўрапейскім музычным фестывалі ў Венгрыі; магчыма, што па дарозе зноў завітаюць у Польшчу. Плануем таксама выезд у Францыю. Ёсць яшчэ і іншыя планы але пра іх гаварыць пакуль што зарана. На Беласточчыне спявалі мы ў Пасынках, у саборы Св. Тройцы ў Гайнаўцы, у беластоцкіх школах н-р 8 і 32, і ў філармоніі. Далі таксама два канцэрты ў Варшаве. Спявалі таксама падчас службаў у беластоцкіх цэрквах. Прымалі нас тут вельмі сардэчна. Да Беластока маю я яшчэ і асабісты сентымент: 30 мая мінулага года ў Святамікалаеўскім саборы вянчаў мяне а. Місеюк, а расходы з гэтай урачыстай для мяне нагоды ўзяла на сябе беластоцкая епархія.

Пра Гуманітарна-музычны комплекс папрасіў я расказаць яго дырэктара **Зінаіду Пятроўну Караткову.**

— Наша школа — адзіная такога роду ў Расеі. Яна, апрача таго, што дае базавую, як і ўсе іншыя школы, адукацыю, таксама раскрывае і пашырана развівае мастацкія здольнасці дзяцей, галоўны націск кладучы аднак на музыку. Навучаем дзяцей такіх дысцыплін як жывапіс, харэаграфія, тэатр, замежная мастацкая культура ці псіхалогія. Нашы вучні займаюцца таксама мастацкай работай: хлопцы — разьбой па дрэве і выпляттаннем з лазы і шпоны, а дзяўчаты — вязаннем, шыццём і кулінарыяй.

Набор вучняў у школу праводзіцца шляхам конкурсаў ужо ад 3-гадовага ўзросту. Кандыдатаў маем у сярэднім 2 на адно месца. Дзетак прымае камісія, у якую ўваходзяць між іншым псіхолаг, лагапед і музыка. 3-годкі займаюцца на 15-мінутных уроках малюнкамі, танцам, спевам у хоры і развівальнымі іграмі. У 4-годкаў да гэтага даходзіць яшчэ вывучэнне англійскай мовы. У 5-годкаў урокі павялічваюцца да 30 мінут. Далей праводзім конкурсны набор у пачатковую школу, якая ў нас ахоплівае 1—4 класы; набіраем не толькі сваіх вучняў але і звонку. Займаюцца яны па 3 гадзіны ў тыдзень у хоры, апрача гэтага вывучаюць індывідуальна ігру на інструментах, рытарыку, тэатр. Ад 5-га па 9-ы клас — гэта асноўная школа. У 5-м класе пачынаецца вывучэнне другой замежнай мовы — французскай, а спеў у хоры займае ўжо 6 гадзін у тыдзень. Пасля 9-га класа вучні атрымоўваюць атэстат і могуць пакінуць школу або застацца на далейшую навуку ў нашай сярэдняй школе ў 10 і 11 класах. Сюды таксама праводзіцца прыёмны конкурс. У сярэдняй школе на хор ходзяць толькі той, хто хоча. Іншыя прадметы, не толькі музычныя, — факультатаўныя: на гэтым этапе вучні выбіраюць ужо сваю будучую спецыялізацыю. Пасля 11-га класа амаль усе прадаўжаюць навуку, большасць у педагагічных інстытутах. Некаторыя рыхтуюцца ў музычныя ВНУ. У будучым навучальным годзе плануем адкрыць яшчэ 12-ы клас, у якім хочам даваць прафесіі гувернёра, музычнага кіраўніка, дамашняй медсястры і сакратара-рэферэнта. У школе вучацца дзеці толькі з Рыбінска — не маем інтэрната. Вучыцца каля 700 дзяцей, з якімі займаюцца каля 200 настаўнікаў і выхавацаў. Школа супрацоўнічае з Ніжне-Ноўгарадскай кансерваторыяй і з паасобнымі вучонымі з іншых навуковых цэнтраў, у тым ліку з Масквы і Санкт-Пецярбурга. Стараемся супрацоўнічаць і з мясцовымі прадпрыемствамі. Да нядаўна шэфствавала школе Канструктарскае бюро прыборабудавання касмічнай тэхнікі, аднак апынулася яно ў цяжкай сітуацыі з-за парыву кааперацыі вызванага новай палітычнай рэальнасцю. Цяпер дапамагаюць нам чым-нечым спонсары: Мэблевая фабрыка, Тыпаграфія, Фабрыка запалак, Мясакамбінат, банкі.

Запісаў
**Аляксандр Вярбіцкі**

P.S. Быў я на канцэрце ў Беластоцкай філармоніі 15 студзеня. Дзеткі з Рыбінска адзінымі атрымоўвалі ад публікі пасля кожнага нумара бурныя і працяглыя апладысменты. Заспявалі яны дзве польскія песні, адну патрыятычную расейскую і некалькі калядак, якія вельмі папулярныя і ў нас. І спявалі яны вельмі прыгожа. Пра іншыя хоры гэтага ўсяго нельга сказаць. У пасляпосны час людзі прывыклі паслухаць лёгкіх калядак, а не цяжкіх літургічных спеваў. Ды, здаецца, і меў быць гэта вечар калядак... Асобнага каментарыя вымагае выступленне Святадухаўскага хору з Беластока. У прыходзе гэтым пару гадоў таму пачалося, як мне здаецца, перацягванне палякаў-католікаў на праваслаўных палякаў, цяпер жа задумалі, відаць, прыхапіць і уніятаў. Нямала высілку каштавала апекуноў хору шуканне чужога, бесколернага рэпертуару — на прыстойнае яго апрацаванне сіл ужо не хапіла. Ды і публіка адпаведна выдзеліла спомнены высілак — узнагародзіла ўсе яго прадукцыі літасцівымі апладысментамі. Дарэчы, публіка, паслухаўшы таго, што плыло са сцэны, падчас антракта спявала свае калядкі — тыя, якія паўсюдна выконваюцца на Беласточчыне. На заканчэнне дадам яшчэ, што ў канцэрце выступілі ваякі Палявога праваслаўнага ардынарыята ў вельмі хрысціянскіх, сказаць бы можна — евангелічных, мундзірах.

Згодна, зрэшты, з духам нашага часу і месца.

**А. В.**

# ІКОНЫ

**Частка XIX**

Прывяду заканчэнне рэляцыі маёй маці з яе падарожжа ў Пячэрскую лаўру:

„Я, здаецца, ужэ табе гаварыла, што ў тых палешукоў то вельмі много вады, а ў той вадзе то незлічона ілясць птацтва. Чаго там толькі ні было: і чорны буслы, і белы буслы... і качкі, і гусі, і чайкі, а колькі рознага малого птацтва, то яму ніякого шчоту німа. Мы ішлі вельмі памалу, бо і змучаны былі і дарогі там вельмі кепскі. Часам ішлі ноччу, калі было месячна, а часамі то ўставалі вельмі рано, можэ так у трэці або чварты час. То значыцца на балотах і вадзе гэтэ птацтво так бушавало, што аж страшно, а з другого боку то і харашэ. Часто просто з-пад ног вылятали розны птушкі, а якжэ, яны там свярчалі, і свісталі, і шчэбаталі, і трашчалі, клекаталі і гагаталі. Такого то я ніколі нідзе ні чула і ні бачыла.

Ну, а тыя палешукі, то як я ужэ гаварыла, народ вельмі бедны, але добры і гасцінны і ўсе яны, так як і мы, праваслаўны і беларусы. Мы назад ні ішлі праз Бярэсце, а толькі праз Пружаны і праз Гайнаўку.

Калі мы ўжэ ўрэшці дайшлі да Гайнаўкі, то ўжэ было ведомо, што гэто наша родна зямля і з тае Гайнаўкі то рукою падаці да Семяноўкі. То нам адразу і сілы прыбыло. А калі ужэ мінулі Нараўку і ўрэшці забачылі крыжы і купалы нашае царквы, то ўсе кляккнулі, пацалавалі зямлю і згаварылі пацер. Кажда з нас дзякавала Богу за тое, што нас завёў так далеко і прывёў назад дахаты жывых і здаровых.

Пайшлі мы да бацюшкі. Ён з усімі намі пацалаваўся, доўга распытваў і сказаў, каб мы ўсе прышлі ў нядзелю на набажэнство, бо ён хочэ, каб нас паказаці ўсяму народаві. Ну то так яно і сталасё. Ну а людзі? Ад іх просто адбою ні было, кажды пытаў нас і пра дарогу, і пра Пячэрскую лаўру, і пра ўсё, што мы бачылі.

А калі мы ўжэ прышлі дахаты, то я абышла ўсю нашу гаспадарку, і ў хлявы пазаглядала, і ў куратнік, бо ўсё хацеласё пабачыць, як там наша жывіна жыве і гадуецца.

Мне наш семяноўскі вучыцель сказаў, што прайшла па крайняй меры паўтары тысячы вёрст. Гэто ж табе не жартачкі! Нават і машыною праехаці паўтары тысячы вёрст то ні вельмі яно так просто, а мы ж пяшком туды і назад схадзілі.

Калі мы ўжэ вярнуліся дахаты, то нам найбольш хацеласё гарачае стравы. Ну, то значыцца мае сёстры наварылі і бульвы, і капусты то мы з мамаю елі ўсё адно як ні ў свае духі. Так нам моцна варанаго хацеласё.

Колькі ўжо з таго часу прайшло лет? Я дакладна не скажу, можэ семдзесят пяць, а можэ і больш. Але ўсё, што я бачыла па дарозі і ў Пячэрскай Лаўры то мне здаецца, што я бачыла толькі ўчора.

Сягодня то я ледво лажу, ногі слабые сталі, але здаецца мне, каб я магла зноў пайсці туды і памаліцца, то мне вярнуліся б сілы. Ну, яно ведомо, што толькі так здаецца, бо старасць то е старасць і ўжэ мне трэбо памаленьку збірацца ў другую дарогу. Ну, а тую ікону, катору мама знасілі ў Пячэрскую лаўру, то калі я выходзіла замуж то мне яе далі. От то гэта ікона дзеравяна, катора ў нас на покуці вісіт. А чы ты знаеш, што яе чуць у мяне не выдурыў якісь жулік. Круціў ён тут, муціў і даваў мне за яе аж дзве плястыковыя іконы. І я з дуру ўжэ хацела паміняці. Але на шчасце прышоў дахаты бацько. Ну то ён, калі толькі пабачыў у чым дзело, то даў чосу і мне, і таму гандлярэві. Дайшло да таго, што гандляра выпер з хаты, а мяне то можэ з паўгадзіны лаяў. Я то ніколі і не думала, што чалавек, каторы ніколі, здавалася мне, і ні паглядзеў у бок іконы і ніколі да яе ні памаліўсе, раптам так моцна пачаў іконы бараніці. Значыцца і ў яго штось там у сэрцы е хрысціянскае.

Я то ні ведаю, чы ты верыш, чы ні верыш, гэто твае дзело. Найважнейшэ, каб ты людзей не крыўдзіў і да іх не чапляўсе. От, я ніколі ні бацька, ні цябе ні бачыла, каб вы былі п'яны і валяліся на зямлі або штось іншэ дурное рабілі. Ну, то гэто вельмі добрэ і напэўно гэто Бог заўважыт.

Ну, а што касаецца гэтае дзеравянае іконы, то ты яе пасля мае смерці вазьмі да сябе ў Варшаву і там яе павесь у сваёй кварціры. Можэ ты думаеш, што яна табе ні паможэ. Калі ні паможэ, то напэўно і не перашкодзіт. Вазьмі, хачу, каб яна ў цябе была.

Ну і гэто сіхібо было б усё, што касаецца нашаго паходу ў Кіеў, але я яшчэ хацела б табе крыху сказаць аб тым як я выкрыстоўвала ікону, калі вас гадавала. Але аб гэтым можэ скажу заўтрэ".

**Алесь Барскі**

# УВАСКРАСЕННЕ „ГАСЦІНЦА"

Цяжкія роды ў гайнаўскай газеты. Напрыканцы 1993 г. у месяца „занямоглага" самаўрадавага „Gościńca Hajnowskiego" пачаў выходзіць „Gościniec". Газету рашылася выдаваць Тэрэса Валкавыцкая, кіраўнічка паслуговай фірмы „Ёдла". Удалося ёй выпусціць толькі два нумары (нулявы і першы). Апошні нумар з'явіўся ў снежні 1993 г.

І, вось, пасля роўна гадовага перапынку „Gościniec" ізноў выходзіць, хаця ў крыху іншай форме. Першы аднаўлены нумар паявіўся ў апошні дзень снежня 1994 г. Пра тое, што газета хоча працягваць ранейшы „Gościniec", сведчыць захаванне нумарацыі (першы нумар новага выдання пазначаны н-рам 2). На гэты раз выдаўцом газеты з'яўляецца Управа горада Гайнаўка. Галоўным рэдактарам — тая ж самая Тэрэса Валкавыцкая, ужо як ураднік Управы горада.

У першым нумары новага „Gościńca" знаходзім м. інш. рэпартаж Т. Валкавыцкай аб гайнаўскім прадпрыемстве „Furnel", кароткія размовы з былым і цяперашнім старшынямі Рады горада, рэкамендацыю ксяндза Мар'юша Талвінскага як паэта, біяграфічную зводку аб інж. Аляксею Зіне — з нагоды вечара ўспамінаў, арганізаваным у яго гонар гарадской бібліятэкай. Віктар Кабац працягвае сваю „Хроніку даўняй Гайнаўкі" — на гэты раз ён заняўся чыгуначнымі домікамі. У гэты нумар папаў і ніжэйпадпісаны, змяшчаючы ў ім першую частку артыкула аб даўніх спосабах на спыненне крывацёку і выкрыцці злодзея, якія ведае 88-гадовая Надзея Руско з Белавежы.

**П. БАЙКО**

# СВЯЦІЦЕЛЬ ІААН (МАКСІМОВІЧ)



2 ліпеня (19 чэрвеня па старому стылю) 1994 года Руская Зарубежная Праваслаўная Царква кананізавала архіепіскапа Іаана Максімовіча. Чаму варта пазнаёміцца з асобай гэтага святога? Свяціцель Іаан жыў у сучасны нам час і быў чалавекам нязвыклай духоўнасці. Дзякуючы сваім турботам і намаганням, стаў ён падобны на святых першых стагоддзяў. Ужо падчас зямнога служэння быў многімі шанаваны за святасць свайго жыцця. Быў вялікім аскетам — малітва і пост пастаянна яму спадарожнічалі. На працягу сарака гадоў манаскага жыцця ягонае цела не ведала адпачынку ў ложку. Сэрцам і душой быў разам са сваёй паствай у кожным месцы і ў кожнай хвіліне. Не ашчаджаў сваіх сіл у службе Богу і людзям. Тыя, якія апынуліся пад яго духоўнай пастырскай, а пазней архіпастырскай, апекай, сапраўды мелі ў каго павучыцца, бо быў ён ідэальным пастырам, які клапаціўся аб даручанай яму пастве.

Нарадзіўся ён як Міхаіл Максімовіч у 1896 годзе ў Расіі, а ў яго жылах плыла таксама сербская кроў (з боку продкаў па мужчынскай лініі). Вучыцца пачаў у корпусе кадэтаў, а пазней штудзіраваў на юрыдычным факультэце. Калі ўспыхнула рэвалюцыя, выехаў з сям'ёй у Сербію. Там вырашыў здзейсніць свае юнацкія мары — стаць духоўнай асобай ды служыць Богу і бліжнім. З гэтай мэтай паступіў на тэалагічны факультэт Універсітэта Святога Савы ў Бялградзе і закончыў навуку ў 1925 годзе. Праз год прыняў манаскі пострыг і стаў працаваць настаўнікам Закону Божага ў гімназіі, а потым — выкладчыкам і выхаваўцам у Духоўнай Семінарыі ў Бітале. Там упершыню былі заўважаны яго духоўныя турботы. Кожны дзень служыў ён Літургію, або прысутнічаў на ёй, і прычашчаўся. Харчаваўся найчасцей раз у дзень, звычайна познім вечарам. Да семінарыстаў ставіўся з вялікай бацькоўскай любоўю. Ноччу абыходзіў пакоі сваіх навучэнцаў, папраўляў ім то падушку, то коўдру і ўчыняў над імі знак крыжа. У першы Тыдзень Вялікага Посту і ў Вялікі Тыдзень еў толькі адну просвіру ўдзень.

У 1934 годзе ў Бялградзе Іаан быў пасвячаны ў сан епіскапа, а восенню 1935 г. пераехаў у Шанхай, дзе ў выніку рэвалюцыі апынулася многа расіян, а таксама іншых славян. Была гэта ягоная першая епіскапская кафедра. Завяршае там пабудову сабора Іконы Божай Маці „Спаручніца грэшных" і прыхадскога дома. Епіскап умела разраджаў напружанасць сярод эмігрантаў рускай, сербскай, украінскай, грэчаскай і іншых нацыянальнасцей. Па ініцыятыве Уладыкі Іаана ствараюцца шпіталь, прытулкі для псіхічна хворых, састарэлых і сірот ды агульнадаступная сталовая. Усё, што датычыла жыцця падлеглай яму паствы, не было яму чужое, але заадно ён сам быў чужы гэтаму свету. Ад безупыннага стаяння аднойчы так яму спухла нага, што лекары сталі падазраваць гангрэну. Аднак Свяціцель не згадзіўся прымаць лячэнне. Калі члены прыхадской рады амаль сілком завезлі яго ў шпіталь, апоўдні Уладыкі не было ўжо ў бальніцы, а вечарам, як заўсёды, служыў Усяночнае дбанне.

У любое надвор'е сам наведваў хворых са Святымі Таінствамі, а таксама з'яўляўся ў тых, хто патрабаваў дапамогі. Хадзіў па Шанхаі пешшу з посахам у руцэ. Тлумачыў, што любоў да чалавека павінна праяўляцца ва ўчынках, паколькі нельга прапаведаваць Евангелле толькі словам. Прыкладам такіх намаганняў быў прытулак для сірот і дзяцей, якіх бацькі апынуліся ў цяжкой сітуацыі. Абыходзіў ён вуліцы і закавулкі горада ў пошуках самотных, хворых і галодных дзяцей. Адну дзяўчынку выкупіў ад нейкага кітайца за бутэльку гарэлкі.

Свяціцель безупынна наведваў цэрквы, бальніцы, школы, турмы і розныя свецкія ды вайсковыя ўстановы, падмацоўваючы такім чынам веру і дух сваёй паствы. Ужо тады сілай яго малітвы здзяйсняліся цуды, між іншым, вярнуў ён да жыцця паміраючую ў шпіталі старую яўрэйку, над якой зрабіў знак крыжа і ўсклікнуў „Хрыстос Уваскрос". Меў таксама дар празорлівасці. Аднойчы прызвалі яго ў бальніцу прычасціць паміраючага старога чалавека. На здзіў усіх прысутных Уладыка паспавядаў і прычасціў маладога і здаровага чалавека, які збіраўся пакінуць шпіталь. Калі свяшчэннік, які спадарожнічаў епіскапу, стаў распытваць, чаму ён так зрабіў, Свяціцель адказаў, што той здаровы памрэ яшчэ гэтай ночы, а хворы будзе жыць многія гады. Прадказанае збылося. Падобныя цуды Гасподзь здзяйсняў цераз свайго слугу яшчэ пазней і ў Еўропе, і ў Амерыцы.

Калі ў канцы саракавых гадоў у Кітаі ўладу перанялі камуністы, расіяне зноў вымушаны былі падацца ў бежанства. Большасць з іх уцякала цераз Філіпіны. У 1949 г. каля 5 тысяч эмігрантаў апынуліся ў лагеры Міжнароднай арганізацыі бежанцаў на адным з філіпінскіх астравоў у зоне ціхаакіянскіх тайфунаў. У прымітыўных умовах, пад палаткамі, правялі яны 27 месяцаў. І толькі адзін раз пагражаў ім тайфун, але ў канцы прайшоў побач. У гэтым выпадку таксама выявілася сіла малітвы Свяціцеля Іаана. Кожную ноч абыходзіў ён лагер навокал і ахінаў яго знакам крыжа з чатырох бакоў. Неўзабаве пасля эвакуацыі ў 1951 годзе прайшоў страшэнны тайфун, які поўнасцю разбурыў лагер.

Свяціцель Іаан неаднойчы хадайнічаў перад свецкімі ўладамі, каб прыдбаць дапамогу бежанцам. Сам асабіста падаўся ў Вашынгтон і насуперак усім перашкодам дасягнуў таго, што былі адменены абавязваючыя законы і ўвесь лагер мог перабрацца ў Злучаныя Штаты Амерыкі.

У 1951 г. Свяціцель Іаан назначаецца епіскапам Заходнееўрапейскай епархіі. Спачатку прабываў у Парыжы, а потым у Брусэлі. У адным з касцёлаў Парыжа каталіцкі ксёндз у час сустрэчы з моладдзю сказаў аб ім, што сведчаннем існавання святых і цудаў у наш час з'яўляецца асоба Святога Іаана Босага (Saint Jean Prieds), які ходзіць па вуліцах гэтага горада. Дзякуючы сваёй вялікай духоўнасці і веданню моў, а перш за ўсё дзякуючы прыкладу свайго жыцця, многія французы, галандцы і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей навярнуліся на праваслаўе.

У 1962 г. прыбыў ён у Амерыку, а ў 1963 г. стаў епіскапам Заходнеамерыканскім і Сан-Францыскім. Так, як і ў Шанхаі, даводзілася там яму перадольваць многія складаныя пытанні эміграцкай грамадскасці. Епіскап Іаан узнавіў і закончыў пабудову самага вялікага ў Амерыцы Сабора Божай Маці „Усіх тужлівых Радасць" Рускай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы. Быў місіянерам, які многім паказаў шлях да Існціны — да Праваслаўя. У апошнія гады свайго жыцця шматкратна падвяргаўся асуджэнням і праследаванням.

Уладыка Іаан памёр 19 чэрвеня 1966 г. (па ст. стылю) у Сіэтл пасля адслужэння Літургіі ў Саборы Св. Мікалая. Цела нябожчыка шэсць дзён ляжала ў адкрытай труне і хаця было спякотнае надвор'е, не заўважалася ніякіх знакаў тлення цела. Пахаванне адбылося 24 чэрвеня 1966 г., а цела спачыла ў склепе пад Саборам у Сан-Францыска.

Так як пры жыцці, так і пасля смерці многія вернікі, дзякуючы яго заступніцтву, атрымоўвалі чаканую дапамогу. Карткі з імёнамі і лісты з просьбамі вернікі клалі пад мітру на магіле Свяціцеля.

Восенню 1993 г. камісія з трох епіскапаў і дванаццаці свецкіх і духоўных асоб пасля супольнай малітвы здзяйсніла акт агледзін астанкаў Свяціцеля і сцвердзілі, што цела-мошчы Уладыкі Іаана з'яўляюцца нятленнымі (не падвяргліся распаду).

Кананізацыя Свяціцеля Іаана адбылася ў гадавіну смерці — 19 чэрвеня (па ст. стылю) 1994 г. у Сан-Францыска ў Саборы Божай Маці „Усіх тужлівых Радасць". Ва ўрачыстасці праслаўлення прысутнічалі 14 епіскапаў, каля 120 свяшчэннікаў, 36 дыяканаў і тысячы вернікаў з усяго свету.

Поўнае названне новага святога такое: **Свяціцель Іаан Цудатворац, Шанхайскі і Сан-Францыскі.**

**С. Н.**

## Свята ў Малінніках

У нядзелю 15 студзеня 1995 г. у бок Маліннік, нягледзячы на мароз і снег, рухалася вялікая колькасць народу з усяго наваколля. Хто чым мог, аўтамашынай, трактарам, а то і пехатою. Усе спяшалі на свята — падняцце крыжоў на новазбудаваную царкву.

Ініцыятаркай пабудовы царквы на могілках у Малінніках была Ганна Бандарук з Руткі. Яна дала першыя грошы, яна пераканала да гэтай справы жыхароў вёскі. Людзі пайшлі калядаваць, пачалі запасацца матэрыялам, уклалі сваю працу і на працягу года паставілі мураваную царкоўку. Калі пабачыў яе мітрапаліт Васіль, узрушаны ініцыятывай, ахвяраваўся пазалаціць крыжы. І вось, крыжы ўжо на месцы і 15 студзеня ў калядна-навагодні святочны час высвяцілі іх і замацавалі на купалах.

З Маліннік да прыхадской царквы ў Падбеллі — 8 кіламетраў. Гэта, асабліва старэйшым людзям, шмат дарогі. А цяпер у іх пад бокам будзе свая царква. Няхай багаслужбы будуць у ёй праводзіцца хоць раз у месяц ці ў большыя святы, але і гэта ўжо вялікая палёгка. Многа было радасці і гонару са зробленага. Найбольш будовай займаўся Уладзімір Сахарчук. А праектаваў будынак таксама жыхар Маліннік Пётр Сцепанюк. Але і іншыя вяскоўцы прыклалі шмат намаганняў дзеля пабудовы царквы.

Крыжы 15 студзеня высвяціў айцец Юры Такарэўскі, благачынны з Бельска, а багаслужбу ўзначаліў іераманах Гаўрыіл з Супраслі. Служба Божая правілася ў рыштаваннях. Яшчэ шмат працы чакае жыхароў Маліннік.

**ак**

## Без Бога не да парога

Хаця ў Саветах адкідалася катэгарычна вера ў Бога, аднак шмат людзей, нават з білетамі кампартыі, верылі ў Тварца.

А вось, што здарылася ў адной сям'і. Бацькі былі веруючымі людзьмі, сын — не. Сын вывучыўся і стаў высокім рангам афіцэрам у авіяцыі, выдатным лётчыкам. Аднойчы захварэў. Вазілі яго па найлепшых лекарах, але нічога не ўдавалася з ім зрабіць — з гнеючым ужо целам адаслалі дадому.

Маці лётчыка паехала ў адзін манастыр за лякарствам сыну. Там параілі ёй зрабіць так: узяць ад бацюшкі алей, які гарыць у лампадках у царкве, і націраць цела хворага ды маліцца за яго здароўе, а ў Вялікую Пятніцу несці хворага побач святара пад плашчаніцай; вось тады раны загояцца.

Гэта было перад Калядамі, а месяц пасля Вялікадня лётчык быў ужо здаровы, без следу ран на целе. Калі напісаў прашэнне вярнуць на службу, паставілі яго перад лекарскай камісіяй. На пытанне дактароў, чым вылечыўся з невылечнай хваробы, лётчык сказаў, што лякарства ведае ягоная маці. Паехалі да яе даведацца, але жанчына сказала, што вылечыла сына знахарствам.

Лётчык вярнуўся на працу, з верай у Божую моц. У вопратку зашыў іконку Божае Маці.

Мая пакойная бабуля заўсёды паўтарала, што „без Бога не да парога". Калі не можам маліцца яўна, трэба чэсць Богу аддаваць тайна. Не чакаць, калі нам будзе дрэнна ў жыцці.

**Аўрора**

## ВЕЧАР КАЛЯДАК

11 студзеня г.г. у Беластоцкай філармоніі адбыўся канцэрт каляднай песні ў выкананні царкоўных хароў з Гарадка і беластоцкіх прыходаў. Выступілі таксама два замежныя хоры з Менска і Рыбінска (Расія). Польскамоўная публіка выслухала украінскія калядныя песні ў выкананні хораў з Беластока, рускія — у выкананні замежных хораў і беларускія калядкі ў выкананні дзетак з Гарадка. Найбольш захапляючае аказалася выступленне гэтых апошніх. Агульны вобраз гарадоцкіх дзяўчатак і хлапчукоў, іх родная мова і спеў калядак на той жа мове — ўсё гэта неяк з сабой гарманізавала, гучала натуральна і шчыра. Праўдападобна не адназу з гледачоў узнік у памяці падчас іх выступлення вобраз з дзяцінства, бо з кожнай песняй воплескі публікі былі штораз большыя. Падчас трохгадзіннага канцэрта гарадоцкія дзеткі спявалі 15 хвілін.

Два канцэрты каляднай песні адбыліся таксама 15 студзеня ў той жа Беластоцкай філармоніі. Прыбытак з усіх канцэртаў адводзіцца на пабудову новых цэркваў на Беласточчыне.

**Я. М.**

# КАР'ЕРЫ

*(працяг; пачатак у 2 н-ры)*

На пачатку XX ст. добрыя вынікі пачалі прыносіць у нас і сталыпінскія аграрныя рэформы. Яны пачалі разраджаць моцна перапоўненыя нашы вёскі. У адным месцы пераносіліся на хутары толькі паасобныя сем'і, а ў другім — з адной вёскі рабілі яшчэ адну або і больш новых вёсачак.

Так, напрыклад, сталася з суседнімі ад нас Гукавічамі, вельмі беднай вёскай. Бо і зямлю мелі не найлепшую, і была яна раскінута на некалькіх палетках. Некаторыя з гэтых палеткаў былі вельмі адлеглымі ад вёскі. Абрабляць іх было і вельмі цяжка, і неэканамічна. Каб паспець з палявымі работамі, людзі змушаны былі начамі працаваць. І, канешне, эфекты мелі горшыя. Каб нейк пратрымацца на сваіх нэндзных гаспадарках, гукавічы дараблялі рознымі рамёствамі, а ў асноўным прадукцыяй і продажам драўляных лыжак. Таму і цяпер яшчэ іх у аколіцы празываюць „скрабачамі”, бо каб зрабіць такую лыжку, нямала трэба было папаскрэбці кусочак адпаведнага дрэва.

Цяжкае эканамічнае становішча іх сістэматычна пагаршалася яшчэ і з-за хуткага прыросту вясковых жыхароў. Так ужо ёсць на гэтым свеце, што там, дзе трудней жывецца, больш плодзіцца. І наадварот. Адным словам, продкі сучасных гукавічаў так пастараліся, што хутка на кожным іх панадворку жыло па некалькі сем'яў.

Вось таму ад іх, як адных з першых, і пачалася ў нас рэалізацыя сталыпінскай хутарызацыі. А выглядала яна так:

Частка гукавічаў асталася на месцы — і яны атрымалі зямельныя надзелы недалёка сваёй вёскі. Другая частка была вынесена на адзін з далёкіх палеткаў, закладаючы там новую вёску Сапава. Трэцяя частка была вынесена на іншы далёкі палетак і стварыла там вёску Істок. Праўда, у аколіцы іх вёску называлі і называюць не Істокам, а, прабачце — Срачамі, бо, падобна, такі выгляд мелі іх першыя маленькія і ўбогенькія хаткі.

Хутка пасля сталыпінскай хутарызацыі сапаўцы і срачаване сталі жыць заможней. Цяпер ужо і з маёй, раней багацейшай вёскі, ехалі да іх на прадвесні купіць бульбы.

А цяпер давайце вернемся яшчэ раз у маю родную вёску Піліпкі Пасынкоўскага прыхода і воласці таго даўняга царскага часу і пазнаёмімся з дзвюма незвычайнымі — на маю думку — біяграфіямі і, бясспрэчна, выдатнымі інтэлігенцкімі кар'ерамі, хаця інтэлігентаў у тагачаснай маёй вёсцы паявілася значна больш. Былі святары, былі афіцэры, былі і пісары, былі валасныя і іншыя чыноўнікі. І ўсё гэта паявілася толькі на працягу больш-менш аднаго пакалення. Таго пакалення, якое жыло на пераломе XIX і XX стагоддзяў.

У цэнтры вёскі жыла сям'я Амельянюкоў. Галавой сям'і быў Васіль, сын згаданага ўжо Кліма і брат свяшчэнніка Сергія з Кіева-Пячэрскага манастыра, які так смачна і сыта частаваў майго дзеда Амяльяна ў час яго паломніцтва ў Кіеў.

Васіль пасля жаніцьбы аддзяліўся ад бацькі і пабудаваўся тут, на вясковым прагулку, бо бацька Клім пасля смерці маці зноў ажаніўся і абзавёўся новай сям'ёй. Другая жонка нарадзіла яму двух сыноў — Кліма і Трафіма.

У Васіля было трох сыноў: Парфенцій, Аляксандр, Васіль і дзве дачкі: Еўдакія і Вера. Дочкі павыходзілі замуж. Старэйшая Еўдакія стала жонкай майго дзеда Амяльяна, маткай майго таты і тым самым маёй бабкай. Малодзейшая Вера стала жонкай дзеда Аляксея Карпюка (былога заслужанага дырэктара Бельскага беларускага ліцэя). Значыць Васіль Амельянюк быў маім прадзедам.

Сярэдні сын Аляксандр, закончыўшы вясковую школу, стаў гаспадарыць разам з бацькамі і дадаткова, так як і бацька Васіль, займацца цясельскай справай.

Наймалодшы сын Васіль, атрымаўшы адукацыю, пачаў працаваць чыноўнікам у Варшаве.

Найстарэйшы сын Парфенцій працаваў вясковым настаўнікам, адкуль быў прызваны ў армію. Служыў у Вільні. Адслужыўшы свой тэрмін, астаўся ў войску „сверхсрочником” у унтэр-афіцэрскім званнем. Гэтага нашаму Парфенцію была замала, і ён пачаў прыватна рыхтавацца да экзаменаў на афіцэрскае званне. Такія экзамены адбываліся штогод. Працаваў, падобна, многа і ўпарта, але калі надышоў тэрмін экзаменаў, мой продак так перапужаўся, што ўвогуле не прыступіў да іх. Думкі далейшай вайсковай кар'еры аднак не адрокся са страху. І меў рацыю.

Зноў цэлы год карпеў над кнігамі і рознымі сухімі „статьями”, „уставами” ды муштрамі, але на наступны год ужо прыступіў да экзаменаў і вельмі паспяхова здаў іх. Маладзец!

Ад гэтага часу і распачалася ўжо сапраўдная афіцэрская кар'ера Парфенція. Афіцэрам, відаць, быў ён добрым, стараннім, здысцыплінаваным, бо атрымаў мноства розных „поощрений” і прадметных узнагарод. Хутка таксама ўзнімаўся па афіцэрскай і чыноўніцкай лесвіцы.

Да рэвалюцыі ўспеў даслужыцца да звання палкоўніка і пасады „делопроизводителя Виленского воинского управления”. Нажыў таксама немалы капітальчык, бо і аклад належны палкоўніку і „делопроизводителю” быў немалы, а і збоку таксама што-нешта перападала. Было прысвоена яму таксама дваранства (шляхецтва). Так што з мужыцкага сына даслужыўся мой прадзядзька да „Его Высокоблагородия Парфентия Васильевича Омельянюка”. Так звярталіся да яго на службе, так адрасавалі яму пісьмы. Во дзе было павышэнне, пашана, кар'ера!

Вёскі, сялянскага дому, мужыцкіх бацькоў і радні не адрокся Парфенцій. Рэгулярна прыязджаў у вёску, пераважна ў час летняга адпачынку. Тады сходзілася і з'язджалася ўся радня. Старэйшыя сямейнікі (браты, сёстры), родзічы і нават родныя бацькі звярталіся да Парфенція на „вы” — „вы Парфенцій”. Дзецям казалі цалаваць дзядзьку ў ручку, што яны ахвотна і рабілі, бо аплачвалася. Падобна, без падарка нікога з радні не астаўляў, хаця некаторыя лічаць, што быў скупаваты крыху.

Вартасць падарка залежала ад ступені сваяцтва і ўзросту абдоранага.

Так стройна распачатая кар'ера, закончылася, аднак, вельмі сумна. Першай большай няўдачай Парфенція было тое, што не ажаніўся, хаця кавалерам быў вартасным і галантным. Ён падабаўся жанчынам, а многія жанчыны — яму. У адну нават быў страшэнна закаханы. Выбранніцай яго сэрца была, падобна, вельмі прыгожая і адукаваная дзяўчына. Яна закончыла школу з залатым медалём, што ў той час таксама сваю вагу мела. Яны пазнаёміліся, падружыліся, пакахаліся, заручыліся, але...

Вось менавіта гэта але ўжо неаднаму насмуродзіла ў жыцці. Так і тут. У прадзядзькаву дзяўчыну меў яшчэ няшчасце закахаца гусарскі афіцэр і шчасце — студэнт-юрыст. Так і хадзілі да яе ўтрох. Хто меў найбольшыя шанцы, сказаць цяпер цяжка.

Аднойчы, наведаўшы сваю дзяўчыну, Парфенцій заўважыў у пакоі на стале фатаграфію саперніка-гусара з любоўным надпісам на ёй. Як і дзеля чаго яна апынулася там, таксама сказаць цяжка, але гэта страшэнна ўразіла майго прадзядзьку. Ён успрыняў гэта як тонкі намёк. Адразу вярнуўся разгневаны дадому, напісаў дзяўчыне запіску з патрабаваннем вярнуць яму заручальны пярсцёнак і паслаў гэтую запіску сваім дзеншчыкам.

Ашарашаная дзяўчына хацела напісаць яму пісьмо, але дзеншчыку быў дадзены прыказ не браць ад яе ніякіх пісьмаў.

Так і закончылася вялікае прадзядзькавае каханне, забыць аднак дзяўчыну ён ужо ніяк не змог, не мог таксама другі раз закахацца.

Няхай прабачыць мне прадзядзька, але я лічу, што ён пагарачыўся тут няўмеру і зрабіў вялікае глупства.

Прабаваў яшчэ ажаніць Парфенція наш бацюшка. У гэтай справе святары былі вялікімі спецыялістамі. І так ужо ў іх вялося тады, што калі толькі хтосьці выб'ецца ў людзі з мужыкоў, адразу і ўсучаць яму ў жонкі пападзянку. Нічога, зрэшты, не бачу я і дзіўнага ў тым. Пападзянак было на вёсках многа, а вартасных жаніхоў мала. Не за мужыкоў жа выходзіць замуж ім. Не з маім аднак прадзядзькам такія нумары. Так і астаўся наш Парфенцій халасцяком...

Не ажаніўся з Парфенціявай дзяўчынай і гусар, бо хутка выяснілася, што апрача гусарскіх вусаў і шаблі, больш нічога ў яго няма. Не выходзілі ў той час дзяўчаты з так званых добрых сем'яў за бедных жаніхоў, бо выбіралі ім тых жаніхоў не яны самі, а іх бацькі. Стала яна жонкай юрыста.

Яшчэ горшым ударам для Парфенція была рэвалюцыя. Праз яе праклятую прапаў нажыты ў банку капітал, прапала цёпленькая пасадка, прапала іншая маёмасць і належныя двараніну „почести”. Трэба было хуценька здымаць з сябе раскошны палкоўніцкі мундзірчык і бягом уцякаць з дзяржавы „где так вольно дышит человек”.

Жыць у роднай вёсцы селянінам ён ужо не надаваўся, а і не было яму ўжо месца там, бо на бацькоўскай гаспадарцы жыў брат Аляксандр з сям'ёй. Страціўшы пасаду ў горадзе, з'ехаў дадому і брат Васіль з сям'ёй.

Вярнуўся наш дзядзька з Савецкай Расіі ў свой горад Вільню і зноў стаў жыць у сваім уласным доме, купленым ім яшчэ ў добры царскі час. У Вільні не было ўжо тады немцаў і саветаў, але не было ўжо і Расіі, а Польшча.

Каб пражыць у той цяжкі час, не маючы работы, прадаваў спачатку залатыя рэчы і ўзнагароды, якія ўдалося зберагчы ў час рэвалюцыі, а потым выклапатаў афіцэрскую пенсію ад польскай дзяржавы. Для гэтага трэба было прадставіць двух сведкаў-палякаў, якія б пасведчылі, што ў часы царскай Расіі не ставіўся ён варожа да палякаў. Сведкаў такіх прадзядзька знайшоў і пенсію атрымаў. Праўда, не палкоўніцкую, а толькі капітанскую, не ведаю чаму, але і яна была тады немалая, і жыць было можна прыпяваючы.

Калі ў 1939 годзе ў Вільню прыйшлі саветы, зноў усё ад прадзядзькі адабралі і ён стаў галадаць. Загінуў у час савецкай або нямецкай акупацыі. Калі канкрэтна загінуў, ад каго і як, ніхто з радні не ведае. Так згасла даволі яркая прадзядзькава зорка.

*(заканчэнне будзе)*

**Васіль Сакоўскі**

*МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК*

## ВІКТАР ШВЕД

Віктар Швед, вы — наш „Купала”,
Гонар, шчасце мне прыпала
У гэтым мне пераканацца,
Болей — шчыра разабрацца,
Вось, калісьці, на сустрэчы
Я пачуў цудоўны рэчы.
Гэта вы чыталі вершы.
Вы заўсёды для нас першым,
Хто ў святліцы выступаў
І парады нам даваў
Як любіць і паважаць,
Родну мову аднаўляць.
Гэта вы давалі ўрокі,
Так ад сэрца, незнарокам.
Мы Вас слухалі гарача
Лепш, чым нейкай перадачы.
І пасля у маёй хаце,
Дарагі мой дружа, браце,
Была гутарка аб „Ніве”,
Хто яе вышэй падыме...
Гэта так было даўно...
Але нам не ўсё адно,
Хто найлепшым ёсць паэтам,
Хто найлепш дайшоў да мэты.
І Вы першы сярод іх,
Тых, хто піша для сваіх.
Плённа пішаце, умела,
Каб так ўся „Белавежа” ўмела!
Мы чакаем Вашых вершаў,
На стале ў нас яны першы.
Ваша зерне, як Купалы,
Каб у добру глебу ўпала!
Гэта зерне у Вас возьмем,
У нашу хату добра прымем,
А найперша — нашым дзеткам
Вашы вершы — Вашы кветкі.
Дык жадаю Вам здароўя,
Шчасця, цёплага надвор'я.
І хай Вас Бог абароніць
І спакой у сэрцы звоніць!

### Адкуль узяліся назвы частак свету, кантынентаў?

Зямля — планета вялізная, за дзень не аб'едзеш, а вось абляцець на касмічным караблі можна некалькі разоў і ўбачыць, што яна падзелена на сушу і ваду. У акіянах як бы плаваюць кавалкі сушы — часціны свету.

**Азія**. Назва прыйшла з асірыйскай мовы, на якой слова **асу** абазначае сонечны ўсход. Той бок зямлі, з-за якога ўсходзіць сонца, назвалі Асія, што пры перакладзе на славянскія мовы атрымала гучанне Азія.

**Амерыка** названа так па імені вядомага мараплаўца **Амерыга** Веспучы, які накіраваўся ў кругасветнае падарожжа і наткнуўся на новы мацярык, трапіў як бы ў Новы свет.

**Арктыка** — ад грэчаскага слова **арктас** — мядзведзь. А потым ужо процілеглую Паўночнаму полюсу і таксама каляполюсную частку зямлі назвалі як бы словам Процімядзведзіца, гэта значыць **Антарктыда**. Па-грэчаску прыстаўка **анты**- азначае насупраць, насуперак.

**Аўстралія**. Даволі новая назва, бо самы малады кантынент. Назва гэтая абазначае **Паўднёвая зямля**.

**Афрыка**. Хутчэй за ўсё гэтае слова пайшло ад назвы племені **афрыджы** або афрыдзі, якое выявілі рымляне паблізу Карфагена на паўднёвым захадзе кантынента.

**Еўропа**. Таксама асірыйцы далі назву, скарыстаўшы сваё слова **ярэб**, што азначае змрок, захад, кавалак сушы, за якой сонца садзіцца на спачын. **Эрэб** у індаеўрапейскіх мовах ператварылася ў **эроп**, эўроп. Адсюль і Еўропа.

**Ясень**

# ШЭРШНІ

Аднойчы, ідучы ў напрамку свайго ольштынскага агарода, убачыў я вялікі, быццам з ваты, шар, з якога вылятаі вялікія восы. Адразу пазнаў, што гэта шэршні. Гняздо іх — вялікі шар, збудаваны з папяровай масы з дзіркаю ўнізе, якою шэршні ўлятаюць і вылятаюць. Сценкі гнязда складаюцца з некалькіх слаёў напоўненых паветрам, якое з'яўляецца выдатным тэрмічным ізалятарам. У сярэдзіне знаходзяцца шасцівугольныя клеткі, згуртаваныя ў гарызантальныя соты. Такіх сотаў, размешчаных адзін над другім найчасцей бывае 5—6 а нават 9. У гнязде велічыні чалавечай галавы знаходзіцца 5 сотаў з 1500 клеткамі. Сям'я шэршняў, так як і многіх іншых супольна жывучых насякомых, жыве толькі адзін сезон. Маладая каралева, аплодненая восенню, калі шчасліва перазімуе, у палавіне красавіка выбірае прыдатнае да будовы гнязда месца. Сама будуе першых 30—50 клетак, у якія кладзе па адным яечку. У гэты час каралева корміцца нектарам кветак і сокам дрэў, кару якіх націнае сваімі моцнымі сківіцамі. Пасля 5—6 дзён з яечак выводзяцца лічынкі. З гэтай пары каралева становіцца драпежнікам: палюе на насякомыя і павукі, якімі корміць лічынкі. Калі надвор'е не дазваляе на палянне, каралева ахвяроўвае на корм часць сваіх лічынак. Лічынкі, якія перажывуць, закрываюць свае клеткі і пераходзяць у стадыю нерухомых кукалак. Пасля чарговых 20 дзён пераўтвараюцца яны ў маладыя работніцы. Першыя два дні сядзяць яны ў гняздзе, а пасля вылятаюць і збіраюць корм і матэрыял патрэбны для разбудовы гнязда. Гэтую працу выконваюць каля 35 дзён, пасля застаюцца ў гняздзе і займаюцца апекай новага патомства каралевы, разбудоваю і рамонтам гнязда. З гэтай пары каралева займаецца толькі складаннем яек. Лічынкі шэршня маюць цікавую здольнасць выдзялення салодкага, багатага ў вітаміны і мінеральныя солі рэчыва, якое злізваюць работніцы і каралева; такім чынам лічынкі бываюць карміцелькамі, што асабліва прыдаецца падчас дрэннага надвор'я, калі збіральнікі корму вымушаны заставацца ў гняздзе. Шэршні ўмеюць рэгуляваць тэмпературу ў гняздзе. Лічынкі патрабуюць тэмпературу 26—28°С. Калі звонку тэмпература падае, работніцы ў гняздзе пачынаюць энергічна махаць крыламі, у выніку чаго ўзрастае тэмпература іх цела а затым і тэмпература гнязда. Гэтым спосабам могуць яны ўнутры ўтрымаць тэмпературу большую на 8°С ад вонкавай. Калі зноў звонку спякота, работніцы прыносяць у клеткі ваду і маханнем крылаў выклікаюць хуткае яе параванне і астуджэнне гнязда.

Пад канец лета з апошніх аплодненых яек выводзяцца каралевы, а з неаплодненых — трутні. Пасля гэтага старая каралева гіне. У гэты час, перад замаразкамі, адбываецца гон, пасля трутні гінуць. Гінуць таксама апошнія работніцы — ранейшыя жывуць толькі два месяцы. Зімаваць застаюцца толькі маладыя каралевы.

Асноўным кормам шэршняў з'яўляюцца насякомыя, асабліва мухі; любяць яны таксама сокі з дрэў і даспелыя плады. Часам нападаюць на пчолы і забіраюць іх мёд. Шэршні аднак лічацца карыснымі насякомымі і, напрыклад, у Германіі знаходзяцца пад аховай. Калі шэршань укусіць, вельмі баліць, а калі ўкусяць 3—4 шэршні, чалавек можа памерці. Таму, калі натрапім гняздо шэршняў, трэба яго абысці не чапаючы.

**Андрэй Гаўрылюк**



Мілы Астроне! Цэлую ноч мне сніліся грыбы. Быццам я еду з двума старэйшымі мужчынамі ў лес. Я вельмі люблю збіраць грыбы, а яны — заядлыя грыбнікі, ведаюць добрыя, грыбныя месцы. Едзем на малым „фіаце". Раптам спыняемся на шашы каля нейкай хаты. Быццам гэта леснічоўка. Яны з кошыкамі ідуць у лес, а мяне пакідаюць тут. Я думаю: што, яны хочуць змыліць мяне, што ідуць пехатой далей па шашы? — Там жа можна было паставіць самаход. Іду крыху за імі. Бачу, што растуць на ўскрайне лесу вялізныя баравікі. Але не ведаю, чаму я іх не збірала. Я ж ужо цэлы кошык ачышчаных грыбоў пакінула ў той леснічоўцы — не памятаю, адкуль яны ў мяне ўзяліся. Хачу давядацца, куды пайшлі знаёмыя, з якімі я прыехала, але яны ўжо зніклі.

З нейкім горкім асадкам вяртаюся назад у Беласток. Не ведаю, як. Мо на чужой машыне...

У маёй хаце страшэнны балаган. Быццам бы працягваецца нейкі рамонт. Рабочыя свідруюць у сценах дзіркі. Усё ў пакоі развалена. Я пры гэтым усім ужо і забылася пра тыя грыбы... Што можа мяне чакаць?

**Лена**

Лена! Чакае цябе захапленне мужчынам, пачуццё. Пра гэта сведчылі б тыя грыбы. Толькі чаму тыя мужчыны ўцяклі ад цябе?! Ну, але гэта не важна — грыбы ж прысутнічалі ў тваім сне. Тое, што ў хаце ты застала балаган, можа абазначаць, што нешта ў цябе зменіцца ў інтымных справах.

**АСТРОН**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. партыя распушчаная Ельцыным, 8. рака ў Румыніі, 9. пасрэдная ацэнка, 10. ёмістасць кілаграма вады, 11. венскі танец, 13. развал, 15. напр. Ніягара, 16. возіць грузы на кані, 20. чалавек, які верыць у поспех, 22. вучань, які сочыць за парадкам у класе, 23. культавая выява, 27. часткі сцябла ільну або канапель, 29. бакоўка ў вясковай хаце, 30. круглая пляцоўка ў цырку, 31. запруда, 32. судовы працэс, 33. сталіца Кітая, 34. сімвал святасці.

**Вертыкальна:** 1. не мае бацькоў, 2. горад на Гродзеншчыне, 4. псіх, 5. след пасля свежай раны, 6. не цётка, 7. частка тэлевізара, 12. вядзе канцылярыю, 14. задняя частка галавы, 16. мае іх кот і сом, 17. абазначэнне, 18. кінематаграфія, 19. еўрапейскі вулкан, 21. блізкі друг, 24. шкоднік драўніны, 25. вялікі горад у Кітаі, 26. непрыгожы чалавек, 27. суквецце злакаў, 28. чыгунны кацёл.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 50 н-ра:** Слонім, аполак, заклік, мякіна, мараль, магіла, абарог, батрак, булава, Лусака, мастак, Кашмір.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Уладзімір Цілюлька** з Саколкі і **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

# Паведамленне

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы паведамляе, што афіцыйная назва камітэта цяпер такая:

Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

Ахвяраванні просім пералічваць на рахунак: 5627-5454-132, PKO BP, Oddział Hajnówka.

# МІЖ НАМІ

* * *

— Як жывеш, Мікола? — пытае стары сябар Сярожа.

— Эт, здароўя няма. Харчы слабыя.

— Чаго ж тады бракуе? Мяса ўсюды купіш. Не тое, што калісь — на карткі, і ноччу ў чарзе за ім стаіш...

— Мяса ўжо даўно не на картках, але грошы — так.

* * *

— Ой, у Канцавых бяда...

— Што, хтосьці памёр?!

— Ды не, наадварот. Хлопец іхняй Дароты пастараўся мець дзіцё і з меншай, Люцынай. А цяпер то нават у нашу вёску не заязджае!

— Гэта бяда? Не забіў ён нікога, а ў нашай вёсцы будзе аж двое дзяцей!

* * *

— Вы ўжо апошні год у пачатковай школе, — кажа настаўнік васьмікласнікам. — Якія ў вас планы? Дзе цяпер, як думаеце, лепш жыць — у вёсцы, ці ў горадзе?

— Усюды кепска. У горадзе працы няма, а ў вёсцы работы шмат, ды прыбытку з таго мала. Якія тады могуць быць планы на будучыню, — уздыхнуў, як стары, Дарэк.

* * *

— Мая суседка заўсёды смяялася ды жартавала, калі яе муж вяртаўся з санаторыя, а цяпер плача.

— А што такое здарылася?

— Яна заўсёды казала, што такі гультай зноў не знайшоў сабе нікога і вярнуўся да сваёй старой. Ну, а цяпер сабе знайшоў, тутэйшую, з суседняй вуліцы. Забраў свае рэчы і пешшу падаўся да „новай" жонкі.

* * *

— Што такое рэклама? — пытае настаўнік сямікласніка Чарка.

— Гэта штосьці такое, аб чым столькі бубняць у тэлебачанні і пішуць у газетах, аж урэшце людзям гэта абрыдне!

**Аўрора**

## Першая дапамога пры атручэнні чадам

Чад паяўляецца ад недагарэўшага апалу (вугаль, дровы, торф і г.д.) і заўчаснага закрыцця коміна. Трэба памятаць, што перад тым, як зачыніць комін, неабходна праверыць, ці не засталося ў печы недагарэўшага апалу.

Прызнакі атручэння: боль галавы, шум у вушах, галавакружэнне. Пры моцным атручэнні — страта прытомнасці. Першая дапамога пацярпеўшаму: як найхутчэй вынесці на паветра, расшпіліць вопратку, абліць грудзі, галаву і твар халоднай вадой. Падносіць да носа хустачку, змочаную нашатырным спіртам. Калі пацярпеўшы стане прытомным, даць яму моцна заваранага чаю. Рэкамендуецца доўга прабываць на паветры.

**Ясень**

# Зіма — студзень

Студзень — году пачатак, а зіме палавіна.
На Новы рок прыбудзе дня на казіны скок.
Студзень мяце — ліпень зальё.
Калі ў студзені дажджы — дабра не жджы.
Віхры і мяцелі ў лютым наляцелі.

# Цікавыя парады

Свежыя яблыкі добра перахоўваюцца, калі іх засыпаць чыстымі драўлянымі апілкамі.

*

Замарожаныя яечкі размарожваюць, апускаючы іх на нейкі час у халодную ваду.

*

Малако не прыгарыць, калі ў каструлю палажыць кавалачак цукру.

*

Каб зварыць яйцо ўсмятку, яго апускаюць у кіпячую ваду на 2—3 мінуты, а крута — 8—10 мінут.

**Ясень**




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1995 r. upływa 20 lutego 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1 zł (10 000 st. zł), a kwartalnie — 13 złotych (130 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

*Сяргей Даўлатаў*

## З „Запісных кніжак"

*(заканчэнне; пачатак у 1, 2 і 4 н-рах)*

Драматург Альшыц сядзеў у лагеры. Ён заляцаўся да жанчыны з лагернай адміністрацыі ў чыне маёра. Рыхтаваў з ёю якісьці спектакль. Яны праводзілі рэпетыцыі да позняе ночы.

Увесь лагер сачыў, як прасоўваюцца ягоныя справы. І вось наступіла вырашальная фаза. Гэта павінна было здарыцца вечарам. Усе чакалі.

Альшыц з'явіўся ў бараку пазней, чымсьці заўсёды. Яму далі закурыць, закіпяцілі чайнік. Потым зэкі пасядалі вакол і кажуць:

— Ну, апавядай.

Альшыц памарудзіў і голасам дасведчанага апавядальніка пачаў:

— Значыць, так. Расшпіляю я на грамадзяніне маёры плашч...

* * *

У футбаліста Ерафеева была жонка. Называлі яе Нона. Яны часта сварыліся. Казалі, што Нона яму здраджвае.

Караў ён жонку своеасабліва. А менавіта — ставіў яе ў дзвярах. Клаў перад сабою мяч. А потым разбягаўся і наносіў па жонцы штрафны ўдар. Часцей за ўсё Нона падала без прытомнасці.

* * *

Па Ленінградскаму тэлебачанні паказвалі баксёрскі матч. Негр, чорны як вакса, біўся з бялявым палякам.

Дыктар паясніў:

— Негрыцянскага баксёра вы можаце адрозніць па светла-сіняй палосцы на трусах.

* * *

Здарылася гэта ў Пушкінскіх Горах. Я праходзіў сабе каля пошты. Чую жаночы голас — паненка размаўляе па міжгарадскім тэлефоне:

— Клара! Ты мяне чуеш?! Ехаць не раю! Тут абсалютна няма мужыкоў! Шмат дзяўчат выязджае, так і не адпачыўшы!

*Выбраў і пераклаў*
*Ян Максімюк*

## СЕНТЭНЦЫІ

Пастукай у дзверы сну —
і цябе запросяць на банкет.

* * *

Пакінуты дом з замком на дзвярах,
як вусны на засаўцы.

* * *

Жэст — страта з прыбыткам.

* * *

Пад дахам
і неба адчувала б сябе лепей.

* * *

Адкрыйся — і цябе знойдуць.

**Барыс Руско**

# НІЎКА

НАШ СУСЕД, ВІДАЦЬ, У КАМЕРЦЫЮ ПАДАЎСЯ

Мал. Я. Бусла

## АД ГАРЭЛКІ РОЗУМ МЕЛКІ *)

* * *

— З якой гэта нагоды ты сёння выпіў?

— Зарплата была.

— І абавязкова з зарплаты трэба выпіць?

— Чаму абавязкова? Не абавязкова. Але калі б я не выпіў з выпадку зарплаты, жонка нізашто б не паверыла.

* * *

— Чаму не ідзеш дамоў?

— Не магу, жонка з хаты выгнала.

— За што?

— За тое, што дахаты не прыходжу.

* * *

П'яніца, ледзь пераваліўшыся цераз парог сваёй кватэры, сказаў жонцы:

— Усё! Больш піць не буду!

Узрадаваная жонка распранула яго, разула і нават спаць паклала.

Ляжыць ён, уздыхае, а пасля і кажа жонцы:

— Але і менш піць таксама не буду!

* * *

З міліцыі пазванілі маці, што яе сын начуе ў выцвярэзніку.

— Зараз жа пусціце яго дамоў, — закрычала маці. — Што ён там будзе рабіць адзін сярод п'яных?!

* * *

— Паўлітэрку, бачу, у лес захапіў. Ці не дужа многа на аднаго?

— Ды не. Калі ўсю выпʼю, больш грыбоў назбіраю — дваццаць будуць...

**) З аднайменнага зборніка, які выйшаў у Менску ў 1988 г. у выдавецтве „Мастацкая літаратура".*

*САВЕЛІЙ ЦЫПІН*

## Вязка

— Гэта Вы давалі ў „Рэкламе" аб'яву, што прапануецца напракат баксёр-медаліст?

— Мы. Заходзьце.

— Дзякуй. Ведаеце, праглядала газету і выпадкова наткнулася. А ён у вас пародзісты?

— Вядома. Усе дакументы ў парадку. Прызёр розных аглядаў і спаборніцтваў, а медалёў — поўныя грудзі. На жаль, вымушаны здаваць на пракат. Хочаш не хочаш, а кілаграм мяса яму дай. Не касцей — а іменна добрага мяса!

— Так, цяжка ў наш час трымаць такога... Злы?

— Наогул, не вельмі, але калі не накорміш у час — гатовы разарваць на кавалкі. А вам навошта? Вартаваць дачу?

— Адкуль у мяне дача? Я ж адна, без мужа жыву. Адна радасць — чатырохногі сябра. Ваш баксёр патрэбны мне, так сказаць, як мужчына. Для вязкі. У мяне дзяўчынка, у вас хлопчык. Як у яго, патомства было?

А як жа, не раз. Усе цёмненькія, у бацьку.

— Значыць, калі атрымаецца, то як заведзена: аліментнага вам, астатніх мне.

— Навошта? Усіх можаце пакінуць сабе. Нам толькі грошы.

— І колькі ж вы просіце?

— Сто тысяч.

— У тыдзень? У месяц?

— У суткі. Кармленне, зразумела, ваша. Плюс выпіўка.

— Як, ён п'е? А, разумею, рыбін тлушч, касцявы булён. Сто тысяч? Ці не замнога?

— Такса такая на баксёра. Дорага — шукайце танней. Вунь колькі іх па дварах бадзяецца. А такога малайца...

— Ну добра, я згодна.

— Толькі, калі ласка, грошы наперад.

— Ну, тут ужо не! Бо яшчэ невядома, які ён у справе. Зробіць сваю справу — тады і разлічымся. Сёння забраць яго можна?

— Хоць зараз. Калі вам не цяжка, пачакайце крыху на вуліцы. Я яго збяру.

Кліентка спускаецца ўніз і прагульваецца па вуліцы. Хвілін праз дзесяць з пад'езда выходзіць моцны мужчына з „дыпламатам". Ён падстрыжаны пад бокс, чыста паголены і прыемна пахне адэкалонам „Альянс".

— Гэта вы чакаеце баксёра?

— Я.

— Пайшлі.

— Прабачце, а дзе баксёр?

— Тут.

— Дзе тут? Можа ў чамаданчыку?

— Баксёр — гэта я.

— Вы?!

— Майстар спорту па боксу. На рынгу ўжо сваё адмахаў, застаўся без прафесіі, а жыць неяк трэба. Вось я і...

— Вось гэта сюрпрыз. Ведаеце, неяк нечакана — у мае гады... Думала, што ўжо, як у старым шлягеры: „адцвілі ўжо даўно хрызантэмы ў саду". Ну і баксёр... Я ўжо праўду кажучы пра гэта паспела прызабыць. Хм, ну добра, раз такая справа, пайшлі.

— Адразу да вас.

— Спачатку на рынак. За мясам.

**Пераклаў з рускай**
**Валеры Бабей**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Не ведаю, ці адобрыш тое, што я зрабіла. Я — незамужняя, але зацяжарыла і маю надзею нарадзіць здаровае дзіця. Нікому не скажу, чыё гэта дзіця, але табе магу прызнацца, бо ты і так нікога з нас не ведаеш.

Дзіця, якое я нашу пад сэрцам, — ад таго, каго я кахала на працягу многіх гадоў, але былі мы разам толькі паціху, каб не дай Божа, ніхто не ўбачыў.

Справа ў тым, што мой каханы — чалавек ужо даволі сталы, жанаты і мае дарослых дзяцей. Было б няпраўдай, калі б я сказала, што ён не кахае мяне, а толькі выкарыстоўвае. Кахаў і, здаецца, кахае. Ну, але не мог ён рашыцца на сур'ёзны крок — каб кінуць жонку, дачку і сына ды распачаць новае жыццё. Ніколі мне гэтага не абяцаў. Проста кахаў мяне шчырым сэрцам — і ўсё.

Дарагое Сэрцайка! Справа яшчэ больш складаная, чым магло б камусьці здавацца. Справа ў тым, што ён — мой дырэктар, а я — яго сакратарка. Заўсёды, як кажуць, на свечніку побач з ім, я была з усімі знаёмая, усе мяне бачылі з дырэктарам не толькі на працы, але і на розных выязных сесіях, нарадах. Мо людзям і не надта прыходзіла ў галаву, што можа нас спалучаць пачуццё, а не толькі службовыя абавязкі. Ён шмат старэйшы за мяне, у гадах майго бацькі. Часамі толькі пажартуе той-сёй, што, маўляў, прыгожых дзяўчат падбірае сабе наш дырэктар. Толькі найбліжэйшыя адчувалі, што нешта тут не так. Мы заставаліся няраз даўжэй за іншых на працы, пэўна, можна было заўважыць таксама, якімі ласкавымі вачыма ён глядзіць на мяне. Людзі ж не дурні, хаця ніводнага разу ніхто не застаў нас у недвухсэнсавай сітуацыі.

Мой дырэктар і каханы быў вельмі дыскрэтны. Аднак жа і не шкадаваў мне нічога. Рабіў мне цудоўныя падарункі, выконваў усё, што я толькі прасіла. Два разы нават удалося нам пабываць разам на адпачынку — раз на моры, раз — у гарах. Яго жонка тады працавала за мяжой.

Сэрцайка! Я ведаю, што раблю кепска. Здавалася б, навошта ён мне, такі стары і з багажом. Але кахаю я яго да шаленства і толькі таму старалася разам з ім хаваць гэта пачуццё перад людзьмі. За што я маю крыўдзіць яго сям'ю?! За тое, што яны былі першыя?..

Каб ніхто не падумаў, якое трывалае пачуццё спалучае нас, я часта паказвалася ў кампаніі з іншымі мужчынамі, але клянуся табе, яны былі толькі маімі сябрамі.

Я ўжо даўно вырашыла, што калі буду мець дзіця, дык толькі ад каханага. І вось цяпер гэты час настаў, а я не ведаю, што рабіць. Неўзабаве ўсе заўважаць маю цяжарнасць і могуць нешта падазраваць. Не хачу, каб ён меў якія-колечы клопаты. Цешуся з усяго сэрца, што нашу яго дзіця, але не хачу руйнаваць яго стабільнае ўжо жыццё. Як ты параіш мне: мо памяняць працу, сысці з вачэй супрацоўнікам? Ці застацца на старым месцы, бо ведаю, што ён штодзённа будзе клапаціцца пра мяне, хаця і не ўспрыняў вестку пра наша дзіця з вялікім энтузіязмам?..

**Бажэна**

Бажэна! Можна было б сысці людзям з вачэй у адным выпадку: калі б ты выехала ў іншы горад. Але гэта будзе звязана з вялікімі клопатамі і выдаткамі. Многія, аднак, гэтак робяць. Праз пару гадоў вяртаюцца дахаты. Калі застанешся ў тым жа горадзе — нічога не зменіцца, бо ўсюды поўна знаёмых.

Калі застанешся пры дырэктары — будзеш здадзена на ціхія абгаворы, кепікі, а мо штосьць дойдзе і да дырэктаравай жонкі. „Зычлівы" заўсёды знойдзецца. Так ці інакш, будзеш мець клопаты.

**Сэрцайка**

**Пошта Сэрцайка.** Дарагі чытач з Лодзі, які прыслаў ліст на імя Майкі з 49 нумара „Нівы" за 1994 год! Здаецца, Майка ўжо знайшла кандыдата. Аднак жа ліст мы ёй перадалі.

**С.**